PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 21 (2141) Год XLII Беласток 25 мая 1997 г. Цана 1 зл.

# Сіла жыцця дрэмле ў каранях

Ганна КАНДРАЦЮК

**На Радаўніцу да абеду пашуць, па абедзе плачуць, а ўвечары скачуць, — гаворыць народная беларуская прыказка.**

У праўдны панядзелак на беластоцкім могільніку ў Дайлідах цяжка сустрэць чалавека.

— Мы ўжо ў нядзельку пасвяцілі магілы родных, — кажа напатканая кабета. Яе словы пацвярджае аб'ява на царкве. „Niedziela przewodnia, święcenie grobów w godz. 8.00 — 9.00". Дзе-нідзе на могілках красуюцца фарбаваныя яйкі. Аднак цяжка спалучаць іх з радаўніцкай трапезай, бо і самыя назвы абрадаў гучаць тут недарэчна. Беластоцкія месцы вечнага адпачынку абдзёртыя з паэзіі. Цяжка было б тут яднацца з душамі памерлых. Напэўна не дапамаглі б у гэтым кучы рознакаляровых вянкоў, пластмасавых кветак ці залатыя надпісы на бетоне (да таго ж на польскай мове).

Многае з беластоцкай эстэтыкі завітала на могільнік у Трасцянку. Тут таксама паўсюдны бетон і кучы мяшчанскага *барахла* — пластмасавыя кветкі, бліскучыя ўпрыгожанні, штучныя вянкі.

— Цяпер людзі разбагацелі то і валакуць з Беластока кветкі, — кажа пенсіянерка Марыя Вушынская з Трасцянкі.

Дзеці цёткі Марысі таксама ў Беластоку. Сын кватэру *на ўласнасць* выкупіў. І самаход свой пад блёкам стаіць. І *панство* рэнтыстам такое добрае, для цёткі Марысі аж трыста злотых у месяц плаціць.

У руках маёй субяседніцы таксама штучныя аздобы.

— Гэтыя беластоцкія, — паказвае пластмасавыя ружы, мальвы і герберы, — занясу да бацькоў, бо харашэйшыя.

А свае, зробленыя з бліскучай паперы, якія з падарункам дастала цётка Марыся на *восьмага марца*, будуць на магіле цешчы.

— Калісь то па-другому магілы аздаблялі, — успамінае 72-гадовая Вера Богусь з Трасцянкі. — На драўляных крыжы плялі вянкі з *замозэля* (дзеразы). Часам і магілы тым *замозэлём* абкладалі. Кветкі толькі жывыя прыносілі. Вось нехта букет з чаромхі наломіць, або лотаці на балоце назбірае. Бывала, *партушок з крэстом* (такі ручнік у выглядзе фартушка) пашыюць, то павесяць на крыжы. На магілу ставілі свечку, каб запаліць яе ў час паніхіды.

Вясновае свята памерлых у Трасцянцы называюць **Радусна**. Святкуюць яго заўсёды тыдзень пасля Вялікадня ў аўторак. У гэтым годзе нагода была асаблівая, з *Радуснай* зышлося свята Юр'я.

— У гэты дзень мы павінны цешыцца разам з пакойнымі, што Хрыстос уваскрос, — паясняе пенсіянерка Жэня Лукашук.

Цётка Жэня з дому Астроўка з павагай глядзіць на залітую бетонам магілу бацькоў. Бацька служыў афіцэрам у царскай арміі. Ледзь пашанцавала з бежанства вярнуцца, як бальшавікі расстраляць хацелі. Але бацька цёткі Жэні сказаў ім: „Я служыў такой уласці, якая была. Вы, таварышы, падумайце, зменіцца ваша ўлада і вас пад расстрэл паставяць".

Мая субяседніца ўціраe слёзы:

— Шкада, што да помніка татавай *картачкі* ў афіцэрскім мундзіры не прыставілі.



*Марыя Вушынская з Трасцянкі прыбірала магілу бацькоў.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

На *Радусну* (Радаўніцу) не трэба многа плакаць, бо „нябожчыкі ад нашага жалю сумуюць". Трэба з імі весяліцца, *пахрыстосавацца*, гэта значыць сказаць тры разы велікоднае „Хрыстос Уваскрос". Ну і падзяліцца ежай. У Трасцянцы ідуць на могілкі ўжо пасля велікоднага снедання. Заносяць памерлым свянцоную страву — яйкі і *паску* — абрадавы велікодны пірог.

— Толькі ў Трасцянцы адна бяда, — сцішана дадаюць рэнтысткі. — Нішто на магіле не ўлежыць. Бо сям'я такая, дзе трынаццаць дзяцей, усю яду забірае.

На *Радусну* ядуць на краю могілак. Пераважна прыезджыя. Раскладаюць пад лесам плед, дастаюць смакоцці і гуляй душа. На радаўніцкім пікніку паявіліся нават ражны з печанымі каўбаскамі. Дзе-нідзе настаўляюць і беларускае *disco polo*.

Сённяшняя Радаўніца хутчэй нагадвае каляровы, народны фэст. Добрымі сябрамі гэтага абраду ёсць майскае надвор'е і свежая прырода.

— А калісь, — успамінае дзядок з кійком, — так гасцявалі, што часам і начавалі на могілках. Толькі не пішыце, што трасцяніцкія, — дадае, — бо гэта пераважна з чужых вёсак так святкавалі. Нашы пасля малебна дахаты з *проскуркай* ішлі. Ужо ў сваёй хаце абедалі і паміналі памерлых.

*Радусна* не вельмі прыхільна ўспрымалася духавенствам. Святары, праўда, свяцілі магілы, але не баранілі ў гэты дзень выходзіць у поле.

— У нас *Радусну* толькі старэйшыя святкавалі, — кажа Марыя Вушынская.

Мая субяседніца гаворыць пра пасляваенныя гады.

— Маладыя ў поле ішлі, пара якраз бульбу садзіць добрая падыходзіла. Не то што цяпер і старыя, і маладыя на могілкі ідуць, дзеці з гарадоў на *таксоўках* сваіх прыязджаюць. Бо каб яны не прыязджалі, то сумнае свята было б. Вёскі пастарэлі; у такой Трасцянцы самі рэнтысты дажываць асталіся. На ўсю вёску каля дзесяці гаспадароў будзе. А ў іншых мясцінах што ў Трасцяніцкай парафіі — Бялках, Саках, яшчэ больш сумна і стара. За зіму з адной Трасцянкі дзесяць пакойнікаў на могілкі вынеслі. Штораз сустракаеш там свежыя, абложаныя вянкамі магілкі.

Побач капліцы — стары зарослы травой могільнік. Дзе-нідзе відненюць жалезныя таблічкі з дзевятнаццатага стагоддзя. Ля капліцы сустракаю самотную бабулю. Спадарыня Вера Садоўская ўжо як пенсіянерка вярнулася на мацярынчыну ў Трасцянку. Расказ пра яе слаўную радню, настаўніцкае жыццё атрымаўся як фантастычнае завяршэнне тэмы пра Радаўніцу. Якраз у гэты дзень людзі ўспаміналі сваіх родных і пераказвалі памяць нашчадкам. Спадарыня Вера Садоўская родам з Бялкоў. Яе бацька, як і яго два браты і сястра мелі высокую адукацыю. Бацька закончыў духоўную семінарыю ў Стаўку (што каля Трасцянкі). Пазней сваё жыццё звязаў з царскай арміяй. У час рэвалюцыі бальшавікі спачатку хацелі яго расстраляць, а пазней намагаліся зрабіць сваім камісарам.

— Не ведаю, дзе тата пахаваны, недзе ў лесе яго расстралялі, — кажа бабуля. — На могільніку ў Трасцянцы спачывае маці і малодшая сястра. Старэйшая сястра Надзея вучылася балета

[працяг ☞ 9]

# Праграма XVI Фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы

**25 мая (нядзеля), пачатак у 18.00, Сабор Св. Тройцы.**

Адкрыццё Фестывалю і інаўгурацыйны канцэрт лаўрэатаў: Ансамбля царкоўнай музыкі пры Варшаўскай камернай оперы і хору беластоцкай Медыцынскай акадэміі.

**26 мая (панядзелак), 17.00**

Конкурсныя выступленні вясковых прыхадскіх хораў з Гарадка, Белавежы, Рыбалаў, Тарэспаля, Ляхавічаў (Беларусь) і Шумперка (Чэхія).

Усе конкурсныя выступленні — у Саборы Св. Тройцы.

**27 мая (аўторак), 17.00**

Хоры з Кандапогі (Расея, Карэлія), Пшэмкава (Легніцкае ваяводства), маладзёжныя хоры з Беластока (Сафійскі прыход), Варшавы-Волі і Гайнаўкі ды дзіцячы хор беластоцкага Сабора.

**28 мая (серада), 17.00**

Гарадскія хоры з Хельсінкі (Фінляндыя), Жыровіч і Брэста (Беларусь), Гайнаўкі, Сямятыч і Беластока (Свята-Духавы прыход) і маладзёжны хор беластоцкага Уваскрэсенскага прыхода.

**29 мая (чацвер), 17.00**

Хоры з Нгеча (Кенія), Тырговішта (Балгарыя), дзіцячы хор Школы царкоўнага спеву з Масквы (Расея), маладзёжны хор Кіева-Пячэрскай лаўры і хор Валынскай духоўнай семінарыі з Луцка (Украіна), хор Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі з Варшавы і хор Праваслаўнай школы псаломшчыкаў з Гайнаўкі.

**30 мая (пятніца), 17.00**

Свецкія польскія хоры з Блота, Любліна, Сопата, Вроцлава, Познані, Ольштына і Острава-Велькапольскага.

**31 мая (субота), 17.00**

Хоры з Кракава, Рыгі (Латвія) і Кіева (Украіна), камерныя хоры з Гродна (Беларусь) і Тамбава (Расея), хор Школы візантыйскай музыкі з Афінаў (Грэцыя) і хор Беларускай музычнай акадэміі з Мінска.

**1 чэрвеня (нядзеля) — заканчэнне Фестывалю**

11.00 — абвяшчэнне рашэння фестывальнага журы — у Калоннай зале Гайнаўскага дома культуры

13.00 — першы гала-канцэрт — у гайнаўскім Свята-Троіцкім саборы.

18.00 — другі гала-канцэрт — у Беластоцкай філармоніі.

**(апр. А. В.)**

# Мы прачыталі

*Senator Henryk Kunicki, upomniany niedawno za zakłócanie ciszy w hotelu sejmowym powiedział o marszałku Senatu Struziku: „To jest człowiek, który prawdy nigdy nie mówi. Raz mojej żonie powiedział, że ku..wy do pokoju sprowadzam. Czy tak postępuje kumpel? A co w tym złego? Jak mam ochotę, to i cztery zapraszam. W przeciwieństwie do innych ja tego nie ukrywam. A są tacy senatorowie, do których dziwki oknami po drabinie wchodzą, aby nikt nie widział. Ale o tym wszyscy i tak wiedzą.*

*Polityka, nr 18*

Вядома чаму так усе пхаюцца ў Сейм і Сенат. А пры нагодзе, з выказвання сенатара Куніцкага відаць, дзе выступаюць сапраўдныя падзелы паміж парламентарыямі. Лібералы і сацыялісты ўводзяць запрошаныя „dziwki" парадным ходам, глыбакаверуючыя — чорным і цераз акно.

* * *

*Symbole państwowe sowieckiej Białorusi, które z inicjatywy prezydenta Łukaszenki znów stały się godłem i flagą, większości młodych Białorusinów są obce. Dlatego państwowa telewizja w czasie meczów piłkarskich białoruskiej reprezentacji nigdy nie pokazuje trybun. Roi się na nich od biało-czerwono-białych sztandarów, które kibice przenoszą pod kurtkami. Za znaczek w takich barwach przyczepiony do kurtki można trafić w Mińsku do aresztu. Za odezwanie się do milicjanta po białorusku — też. W czasie masowych wystąpień opozycji milicja często urządza „łapanki" na ulicach. Do samochodów zaciągano zupełnie przypadkowych ludzi, jeśli tylko byli młodzi.*

*Gazeta Wyborcza, nr 104*

* * *

*Аляксандр Лукашэнка гэта ніякі прэзыдэнт, а звычайны трэйцярадны ельцынскі губэрнатар.*

*Беларускі Дайджэст, н-р 6*

* * *

*Ад часу калі расейскія спецслужбы прывялі да ўлады „свайго чалавека", былога члена КДБ — А. Лукашэнку — расейская акупацыя на Беларусі настаянна замацоўваецца. Зачыняюцца беларускія школы, выданні, выкідаецца і зневажаецца беларуская мова, прадаецца Расеі беларуская эканоміка.*

*Беларус, н-р 443*

Усё гэта гучыць цяпер нават нуднавата. Мы аб такім ходзе падзеяў пісалі ўжо два гады таму.

* * *

*Уважаемыя участники конференции! Не секрет, что в первые годы после получения независимости под знаком так называемых рыночных реформ в республике происходило фактическое ограбление народа в интересах коррумпированных чиновников и криминальных групп. Положив конец такой приватизации, мы стали поперёк интересов очень влиятельных сил. Учтя негативный опыт соседей, мы решили прекратить приватизацию,* — сказаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, гаспадар Беларусі.

*Народная газета, н-р 81*

Вот видите, товарищи! Спасение Беларусь получила благодаря Александру Григориевичу. А соседние народы в итоге помирают от голода.

* * *

*W plebiscycie pod hasłem „Kto tu rządzi" okazało się, że w województwie białostockim w dziesiątce najbardziej wpływowych osobistości znalazł się przewodniczący Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego Jan Syczewski. Stało się tak, ponieważ jeden z czytelników przesłał 5 ankiet z jednym tylko nazwiskiem, co dało przewodniczącemu BTSK 50 punktów. Poza tym nikt inny nie wskazał na Syczewskiego.*

*Kurier Poranny, nr 102*

Калі б мы ведалі, што „наш" мае шанц выйграць нейкі „плебісцыт", самі паслалі б пару дзесяткаў анкет. Наступным разам такой памылкі не зробім.

* * *

*Dla kogoś, kto w ostatnich latach śledził poczynania białostockich władz miejskich, zarzut o sfałszowanie losowania członków komisji referendalnych nie może być zaskoczeniem. Od czasów zdobycia większości w Radzie Miejskiej przez prawicową koalicję Jedność popełniła ona tyle wykroczeń przeciw zasadom demokracji i zwykłej przyzwoitości, że kompromitacja była tylko kwestią czasu. Zaczęło się od obsadzania wszystkich fundacji, spółek i przedsiębiorstw komunalnych i wszystkich stanowisk w Urzędzie Miejskim przez przedstawicieli ugrupowań kanapowych wchodzących w skład tej koalicji. Dziś z budżetu miejskiego pozostaje na utrzymaniu kilkanaście prawicowych, narodowo-katolickich partyjek. Niekontrolowana władza zawsze ulega zwyrodnieniu, a poczucie bezkarności prowadzi do stępienia instynktu samozachowawczego. Tak można tłumaczyć manipulowanie przez Zarząd Miejski podczas losowania członków komisji referendalnych.*

*Kurier Poranny, nr 106*

Чорныя ці чырвоныя — гэта, як аказваецца, ўсё адно. Змянілася толькі месцазнаходжанне кіруючага цэнтра. Раней да шэфа лакальнай улады звярталіся „таважышу першы сэкрэтажу", сёння — „его эксцэленцыя", а царкі далей паводзяць сябе аднолькава.

# З мінулага тыдня

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава** 5 і 6 мая г.г. пабываў у Смаленску і Катыні. Уладыка ўзначаліў Святую Літургію ў смаленскім саборы, а на могільніку ў Катыні — у прысутнасці дзяржаўных улад і мясцовых вернікаў — адслужыў паніхіду за ўсіх там пахаваных. Была гэта першая ад 55 гадоў магчымасць памаліцца за верных сыноў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы і ўсіх там замучаных.

**Рымскі папа** сустрэнецца з праваслаўнымі першаіерархамі, — паведаміла аўстрыйская штодзёнка „Die Presse". — Зараз вядуцца перамовы паміж Ватыканам і праваслаўнымі Цэрквамі на тэму гістарычнай сустрэчы **Яна Паўла II** з патрыярхамі Канстанцінопаля **Варфаламеем I** і Масквы **Алексіем II** у чэрвені г.г. у Вене. Ватыканскі прэс-сакратар **Хаакін Навара-Вальс** не пацвердзіў і не аспрэчыў весткі, а гэта ў дыпламатыі абазначае, што нешта ў справе дзеецца.

**Парламенцкія выбары** адбудуцца праўдападобна 14 верасня, — сказаў журналістам прэзідэнт **Аляксандр Кваснеўскі**. На яго думку, гэты тэрмін самы адпаведны з юрыдычнага пункту гледжання, паколькі выбары павінны супадаць з момантам заканчэння паўнамоцтваў парламента.

**Прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч** заявіў, што не будзе кандыдаваць у парламент з краёвага выбарчага спіса СЛД, а толькі будзе балаціравацца ў Беластоцкім ваяводстве. Абгрунтоўваючы сваё рашэнне ён сказаў, што краёвы спісак — гэта свайго роду страхоўка для тых палітыкаў, якія хочуць атрымаць крэсла ў Сейме. Каб стварыць выбаршчыкам поўны, нічым не абмежаваны шанц і ўмовы для ацэнкі сваёй дзейнасці, былыя парламентарыі не павінны гэтай страхоўкай карыстацца.

**Клініка кардыяхірургіі** мусіць паўстаць у Беластоку да канца гэтага года, — заявіў праф. **Збігнеў Рэліга** і як беластоцкі кансультант абяцаў, што будзе хадайнічаць перад урадам аб дадатковыя фінансавыя сродкі на гэтую мэту. Пасля размовы з праф. Рэлігам і рэктарам Медыцынскай акадэміі праф. **Янам Гурскім** прэм'ер-міністр **Уладзімеж Цімашэвіч** перадаў на будову клінікі 700 тысяч зл. і абяцаў адкрыць валютны крэдыт для завяршэння пабудовы на працягу 2—3 месяцаў.

**Семінар** для настаўнікаў сярэдніх школ на тэму галакостu і навучання аб культуры, абычаях і гісторыі яўрэяў адбыўся ў Куратарыі асветы ў Беластоку. Удзельнічаў у ім міністр па справах ветэранаў **Адам Дабраньскі**. На думку **Андрэя Раманчука** з Рускага культурна-асветнага таварыства, якое было суарганізатарам гэтага мерапрыемства, такі семінар дазваляе пашырыць веды ў гэтым канкрэтным выпадку пра яўрэяў, але пажаданым было б ладзіць падобныя сустрэчы, на якіх настаўнікі дыскутавалі б пра іншыя нацыянальныя групы.

**У Беластоку** будуць уведзены аплаты за карыстанне стаянкамі для аўтамашын у цэнтры горада. Такое рашэнне прынялі радныя на апошняй сесіі Рады горада. За месца на стаянцы трэба будзе плаціць у 400 пунктах сталіцы ваяводства. У першую чаргу аплаты будуць уведзены на Суражскай, Мар'янскай і Ліпавай вуліцах ды Рынку Касцюшкі. Платныя аўтастаянкі маюць пасадзейнічаць упарадкаванню вулічнага руху і прыдбанню сродкаў на ўтрыманне дарог. За апошнія 16 гадоў лік аўтамабіляў у Беластоку павялічыўся ўдвая. Пад канец мінулага года зарэгістраваных было 62 тысячы машын, у тым ліку 46 тысяч легкавікоў.



# Весткі з Беларусі

**Памінкі ў чарнобыльскай зоне**

На Радаўніцу, у дзень памінання нябожчыкаў з'ехаліся ў свае родныя вёскі адселеныя жыхары Нараўлянскага раёна. З розных месцаў рэспублікі, у тым ліку і са сталіцы, прыехалі людзі ў вёску Цешкаў. І хаця моцныя ў мінулым дамы сустрэлі іх пустымі вачніцамі вокнаў і холадам адчужэння, вясковыя могілкі прыведзены ў парадак, магілы ўпрыгожаны кветкамі. Памінаўшы памерлых людзі дзяліліся болем страты родных мясцін. Але нават у хвіліны смутку сустрэча з землякамі надае новыя сілы.

**Беларускія еўрааблігацыі**

Міністэрства фінансаў і Нацыянальны банк Беларусі зараз разглядаюць магчымасць выпуску еўрааблігацый ў сувязі з недастатковасцю знешніх крыніц фінансавання рэспублікі.

**Аварыя ліквідавана**

Вынікі выбуху на газаправодзе Таржок—Менск—Івацэвічы, які адбыўся 30 красавіка, ліквідаваны. Паводле слоў прадстаўніка Штаба грамадзянскай абароны, узарвалася труба асноўнай ніткі газаправода Захад-Трансгаз дыяметрам у 1,2 м, у выніку чаго пашкоджана 80 м труб. Па папярэдніх даных узрыў адбыўся з-за фізічнага састарэння газаправода, а ўзгаранне газу — ад мінулагодняй травы, якую недалёка палілі.

**Маэстра ў сталіцы**

Пасля дырыжорскай працы ў Ірландыі і канцэртаў у Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі Аляксандр Анісімаў дырыжыраваў у Беларускай оперы. 10 мая меламаны пачулі аўтарскую музычна-тэатральную кампазіцыю ў двух аддзяленнях „О, Моцарт, Моцарт!", у якой прагучалі арыі, уверцюры і опера кампазітара „Моцарт і Сальеры". У галоўных ролях выступілі Алег Мельнікаў, Сяргей Драбышэўскі, а таксама маладыя спявачкі Опернага тэатра.

**Помнік Машэраву**

80-годдзе з дня нараджэння Пятра Машэрава будзе адзначацца ў лютым будучага года. Машэраў у канцы 60-х гадоў жыў і працаваў на Брэстчыне і ўнёс вялікі ўклад у сацыяльна-эканамічнае развіццё вобласці. Брэсцкі аблвыканкам адобрыў план мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай даце. У абласным цэнтры плануецца ўстанавіць мемарыяльную дошку, прысвоіць імя Машэрава адной з вуліц горада, арганізаваць выставу дакументаў і фатаграфій правадыра. Кіраўніцтва вобласці звярнулася ў Савет Міністраў з прапановай пабудаваць помнік Машэраву на Брэстчыне.

**Ствараецца БПСМ**

Ідзе падрыхтоўка да ўстаноўчага з'езда Беларускага патрыятычнага саюза моладзі — арганізацыі, якая будзе цесна супрацоўнічаць з дзяржавай. У большасці раённых і абласных цэнтраў рэспублікі ўжо адбыліся сходы ініцыятыўных груп па вылучэнні дэлегатаў на гэты з'езд. Паводле папярэдніх даных пройдзе ён у дваццатых числах мая. Як паведамілі ў Дзяржаўным камітэце па справах моладзі, усяго ў рабоце ўстаноўчага з'езда прымуць удзел 1100 дэлегатаў.

**Дзень герба і сцяга**

11 мая адзначаўся Дзень дзяржаўнага герба і дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь. У Менску на плошчы Незалежнасці адбылася ўрачыстая цырымонія падняцця дзяржаўнага сцяга з удзелам прадстаўнікоў сталічных улад і працоўных калектываў. У Брэсце з гэтай нагоды адбыўся вялікі канцэрт на цэнтральнай плошчы горада. У свяце разам з брэстаўчанамі прынялі ўдзел дэлегацыі гарадоў-пабрацімаў: расейскага Арла, украінскага Луцка і польскай Бялай-Падляшскай. У выдавецтве „Юнацтва" выйшла ў свет кніга „Герб і сцяг беларускай дзяржавы". Гэта першае навукова-мастацкае выданне для дзяцей пра сённяшнія сімвалы, іх гісторыю і значэнне. Кніга выдадзена на беларускай і рускай мовах.

**Пажар у метро**

На станцыі „Акадэмія навук" менскага метро 10 мая адбыўся пажар, які прывёў да спынення руху цягнікоў. Прычына пажару — замыканне ў трансфарматарнай сетцы метрапалітэна. На месцы здарэння былі сцягнуты пятнаццаць пажарных машын, агач узгарання быў ліквідаваны за гадзіну. Рух цягнікоў адноўлены. Пацярпелых няма.

# Цяпер гэта жыццё!

— Сею ўгнаенні, зрабіў каробку, але трохі завялікую, — гаворыць мне на полі 71-гадовы пенсіянер **Мікалай Багацэвіч** з Орлі. — Жалезнай каробкі хопіць толькі на адзін сезон, зараз яе соль раз'ядае.

Калісьці пры санацыі людзі босыя хадзілі. У мяне дагэтуль пазногці на двух пальцах збіты. З ранняй вясны ўсе пачыналі хадзіць без абутку. У школу таксама басаног бегалі, з палатнянай торбай на кніжкі цераз плячо. У школе вучыў нас пакойны Васіль Лашкевіч. Мыла тады ніхто з нас не бачыў, то вошы па вучнёўскіх галовах як паравозы хадзілі.

Цукеркі ў крамах былі, але людзі не мелі грошай купляць іх. Яблыкаў было мала, бо не было садоў. У Орлі толькі двое багатых мелі свае сады. Дзеці зрывалі плады палявых грушаў і дзікіх яблыняў. Часам адрывалі штыкеціну і залазілі ў сад, але трэба было сабак асцерагацца.

Сялянскія дзеці канчалі адукацыю на шостым—сёмым класе. У трынаццацігадовым узросце трэба было браць біч у рукі і займацца ў гаспадарцы. Вадзілі коней пасвіць удзень і на начлег. Калі заснеш ноччу, коні пойдуць невядома дзе.

Калі прыйшлі рускія ў 1939-м годзе, панізілі класы і мне трэба было вярнуцца з шостага ў пяты клас. Прыслалі рускіх настаўнікаў, якія вучылі па-руску і па-беларуску. Са старых настаўнікаў працаваў толькі Лашкевіч. Пры немцах яшчэ горш стала. Загадалі нам помнікі з жыдоўскіх могілак вазіць на дарогу да Вулькі. Молатам трэба было гэтыя помнікі разбіваць.

Пасля вайны трапіў я на два гады ў войска. А там палявая кухня, патрулі па вёсках, начлегі ў клунях. Быў спакой, пакуль генерала не забілі. Банды пераапраналіся за польскіх салдат. Бывала, глянеш навокал, а там усё вёскі гараць. Пашлеш сувязнога, дык пойдзе і прападзе. Потым сталі мы гадаваць валасы і пераапранацца ў цывільную вопратку. Мы там толькі парадку пільнавалі.



Калі я вярнуўся з войска, зараз ажаніўся. У бацькі было 16 гектараў зямлі. Даў мне і братам па 4 гектары. Мая жонка родам з Новага Беразова. Вучылася яна шыць у маёй сястры і такім чынам я пазнаёміўся з ёю. У 60-х гадах сталі мы будаваць хату. Цяжка было, але цесць дапамог работай і купіў сталярку. Не паспелі ўвайсці ў яшчэ не даконачаную хату, як дом загарэўся ад электрычнасці. У 1964 годзе пайшоў я на работу ў бетанярню ў Орлі.

Цяпер маладым гаспадаранне не атрымоўваецца. Яшчэ калі маеш усе машыны і многа зямлі, тады будзе прыбытак. Я купіў нядаўна чацвёра парасят (па мільёне плаціў за адно), бо засталося многа бульбы, якой няма дзе прадаць. Гадую свіней, бо абодва сыны ў Беластоку. Прыедуць самаходам і забяруць мяса.

Атрымоўваю пенсію і ветэранскі дадатак. Ой... калісьці то было цяжка. Цяпер гэта жыццё!

**Запісаў і фатаграфаваў**
**Міхал Мінцэвіч**

# Дзе гэтая Дабрывада?

Дабрывада запамяталася мне з мінулага як адна з актыўнейшых у Кляшчэлеўскай гміне. Тут пабудавалі святліцу і пачатковую школу ў грамадскім пачыне. У вёсцы дынамічна дзейнічаў гурток вясковых гаспадынь і жаночы мастацкі калектыў, які мы называлі беларускім, паколькі ён выступаў на аглядах беларускай песні і заваёўваў вядучыя месцы. Можна сказаць, што Дабрывада з'яўляецца тыповай вёскай Падляшша са сваімі адметнасцямі ў гаворцы і сваім быце.

З Дабрывады выводзяцца мае карані. Тут нарадзіўся мой бацька, які пакінуў па сабе немалую радню.

Мы часта наведвалі сваякоў у гэтай вёсцы. Мы ехалі да іх на Пяценку, якую святкавалі ў Дабрывадзе ў канцы кастрычніка, а яны да нас прыязджалі перад Калядамі на Вялікамучаніцу Варвару, якую мы адзначаем 17 снежня.

Калі я працаваў у Ваяводскім праўленні кіно ў Беластоку, Дабрываду штомесячна наведваў з кінаперасоўкай. Не было тады яшчэ электрычнасці ў вёсцы і мы карысталіся агрэгатам. Гэта было ў шасцідзесятыя гады.

Праходзілі гады. Старэйшае пакаленне адышло з гэтага свету. З камунай і нашы кінаперасоўкі заняпалі. Парваліся мае кантакты са сваякамі і вёскаю.

Толькі нядаўна, у адну майскую раніцу, прыйшлося мне праязджаць у Кляшчэлі праз гэтую вёску. Як жа ўсё тут змянілася! Праязджаючы побач даўнейшай школы, з сумам спаглядаў я на прыстарэлы будынак з велізарным замчыскам на дзвярах. Пустуе цяпер дабрывадская школа, як і іншыя ёй падобныя на Беласточчыне. Толькі час ад часу нехта згуляе ў ёй вяселле. Танцавальных вечарын моладзь не арганізуе, бо няма ахвотных плаціць музычным калектывам. Вядома, што яны зараз шкуру лупяць.

Спыніўшыся побач вясковай крамы, надумаўся я пагаварыць з маладой прадаўшчыцай, актыўнай дзеячкай гуртка вясковых гаспадынь і распытаць пра будні іхняй вёскі. Аднак чарга вясковых жанчын, якую я застаў у краме, не дала мне магчымасці рэалізаваць задуму.

Хочацца адзначыць, што абсталяванне вясковай крамы яе ўласнікам і прадпрымальнікам Янкам Ліпінскім з Чаромхі даказвае, што рэклама і тут знайшла сваё месца. Ужо сама вітрына сведчыць, што жыхары гэтай вёскі ідуць з духам часу. Не стаў я займаць час прадаўшчыцы і яе кліентам. Яшчэ сюды загляну і зраблю матэрыял аб сваіх знаёмых.

У канцы брукаванай вуліцы выкаціўся я на сваім неадлучным веласіпедзе на прыгожую асфальтавую дарогу. Гэта яшчэ адзін доказ магутных перамен апошняга часу ў Дабрывадзе.

**Уладзімір Сідарук**

# З майго панадворка

Прачытаўшы артыкул Мікалая Лук'янюка аб тым, як Нікіфар дзяліў гаспадарку („Ніва", н-р 13), я падумаў, што варта напісаць пра Нікіфараў з маёй вёскі. Мой сусед з правага боку — інвалід І групы, якому да 65-ці гадоў вельмі доўга трэба было б яшчэ чакаць. Яго нявестка працуе лекарам і з атрыманнем найвышэйшай інвалідный групы цесця не было ніякіх праблем. Гаспадарку фармальна падзяліў ён на сына і дачку, якія жывуць у горадзе і магчыма, што не ведаюць, дзе іх поле знаходзіцца. Бацька, хаця інвалід, вясной кладзе такія фуры гною, што ледзь конь з месца рушыць. Дарэчы, гэты гаспадар можа і мацнейшы за каня і сам той воз мог бы таксама пацягнуць. Ён інвалід І групы і атрымлівае па гэтай прычыне адпаведную рэнту.

Другі прыклад: мужык пабіў жонку, якая на некалькі дзён трапіла ў шпіталь. Неўзабаве яна атрымала таксама інвалідную рэнту, хаця яшчэ маладая і зусім здаровая. Такім чынам у нас цэлая вёска гэта рэнцісты — інваліды і пенсіянеры. Усе яны „перапісалі" гаспадаркі на дзяцей, што жывуць у гарадах, а самі іх абрабляюць далей, так як і абраблялі. Грошы атрымліваюць таму, што яны — рэнцісты, а прытым прадаюць малако, жывёлу і ўсё іншае. Падаткі плацяць як гаспадары, гэта значыць, сімвалічныя сумы. Сапраўдныя пенсіянеры, якія не маюць зямлі, абавязаны плаціць падатак у гміну за тое, што маюць хлявок, пуню, ад кожнага квадратнага метра гэтых будынкаў. Быццам бы вялі нейкую там прадукцыю ці гандлёвую фірму. Падатак гэты, ад пустых і старых найчасцей будынкаў, дасягае ўжо мільёнаў. Ці гэта справядліва?

**Дзядзька Захар**

## *Вясна*

*ў фотааб'ектыве Уладзіслава Завадскага*



# Май — месяц матур

Тэмы сёлетняга пісьмовага матуральнага экзамену па беларускай мове былі карыснымі для тых, хто многа чытае, мае багатыя агульнагуманітарныя веды, умее свабодна выказацца:

*1. Мае развапжанні аб багацці і трываласці літаратурнай спадчыны майго любімага пісьменніка.*

*2. Выкажы свае думкі і рэфлексіі, якія наводзяць на цябе радкі верша Пімена Панчанкі:*

*„Той дзень прапаў і страчаны навекі,*
*Калі ты не зрабіў таго, што мог,*
*Калі не паспрыяў ты чалавеку,*
*Нячыры быў, зманіў, не дапамог".*

*3. Дакажы, што беларуская літаратура вучыць і выхоўвае маладога чалавека.*

Менш важнымі былі тут, здаецца, сухія веды з падручніка.

Як матурысты справіліся з пытаннямі? Дырэктар Ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску Зінаіда Навіцкая лічыць, што яе гадунцы — крыху лепш, чым пасрэдна:

— Была адна бліскучая праца, на шасцёрку, але былі і двойкі. Цяпер, вядома, гэта самая нізкая здавальнючая ацэнка. Недастатковых — адзінак — у нас на пісьмовых экзаменах, не толькі па беларускай мове, але ўвогуле не было.

Намеснік дырэктара гайнаўскага ліцэя Аляксандр Лаўрыновіч таксама паінфармаваў, што па беларускай мове былі ў іх школе двойкі. Але тры асобы правалiліся на іншых прадметах: дзве — на польскай мове, адна — на біялогіі. Паўторныя экзамены могуць яны здаваць толькі праз год.

У час матураў аказваецца, як добра вучням удзельнічаць у прадметных алімпіядах. У Гайнаўцы шэсць, а ў Бельску аж шаснаццаць асоб не мусілі нервавацца перад экзаменам па беларускай мове, таму што раней сталі лаўрэатамі цэнтральнай алімпіяды.

Не падвяргаюцца вялікаму стрэсу таксама тыя, каму ненавісная матэматыка. Замест яе можна выбраць гісторыю, біялогію або замежную мову. У абодвух беларускіх ліцэях гэтай магчымасцю шырока карысталіся.

Сёлетняя матура, папраўдзе, не розніласа ад ранейшых. Новае толькі тое, што ў Гайнаўцы першы раз праходзіла яна ў свежазбудаванай гімнастычнай зале, што, па словах дырэктара Яўгена Сачко, дало камфорт пішучым і іхнім бацькам, якія не мелі магчымасці нервавацца пад дзвярыма. А ў Бельску забралі са сталоў вучнёўскія пухнатыя звяркі-талісманы і скінулі іх у кутку залы. Афіцыйна: каб не замянілі ў цеснаце.

**М. В.**

# Ужо вядома, хто такі Сапега

**Размова з д-рам Алегам ТРУСАВЫМ, дацэнтам Беларускага універсітэта культуры, сябрам Сойма Беларускага народнага фронту „Адраджэньне", адным з лідэраў дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі.**

***— У беларускай палітыцы вялікую ролю ў апошні час адыгралі археолагі: Зянон Пазьняк, святой памяці Міхась Ткачоў, Вы. Што прывяло менавіта навукоўцаў у палітыку?***

— Гісторыя. Справа ў тым, што мы не проста археолагі, мы археолагі позняга сярэднявечча. А да таго, як мы прыйшлі ў археалогію, гэтыя слаі так званых літоўскіх феадалаў і польскіх паноў проста знішчаліся бульдозерам. У 50-я, 60-я і яшчэ ў 70-я гады і маскоўскія археолагі, якія прыязджалі на Беларусь, і тутэйшыя капалі так званую Кіеўсую Русь, старажытнарускі перыяд і канчалі XIII стагоддзем. А ўсё тое, што было вышэй, знішчылі бульдозерам, напрыклад, унікальныя слаі ў Наваградку, з кафляй, манетамі, у Берасці і іншых месцах. Мы, калі прыйшлі ў археалогію, паставілі пытанне: тое што ляжыць у зямлі, нават калі яно XIX стагоддзя, гэта наша спадчына. І пачалі вывучаць Беларусь з яе тысячагадовай гісторыяй, з X па XX стагоддзе. Гэта было наша крэда.

Спазнаўшы позняе сярэднявечча, мы адразу зразумелі, што афіцыйная археалогія хлусіць. Калі, напрыклад, я дзесяць год капаў свой уласны горад Мсціслаў і калі ля Кармеліцкага касцёла мы знайшлі пабітых абаронцаў горада і ў шкілеце аднаго з іх ляжала расейская страла, я адразу зразумеў, чаму маіх продкаў і мяне называлі недасекамі.

***— Як Вы ацанілі б сённяшні стан беларускай гістарычнай навукі? Ці выдаюцца спецыялістычныя часопісы?***

— Усе гістарычныя часопісы, якія мы заснавалі ў часы адраджэння, пакуль што, трымаюцца. Перш-наперш, гэта: „Беларускі гістарычны часопіс", „Беларуская мінуўшчына", „Спадчына", плюс прыватны „Гістарычны агляд" Генадзя Сагановіча, які выдаецца на грантах. Такім чынам мы маем чатыры гістарычныя часопісы, а раней не мелі ніводнага. Па-ранейшаму выходзяць „Весці Акадэміі навук. Грамадская серыя", ну наклад іх вельмі маленькі, але яны таксама выходзяць. Я ўжо не кажу, колькі нашы гісторыкі і археолагі выдаюць сваіх уласных зборнікаў. За апошні год археалагічнай і гістарычнай літаратуры выйшла ў Беларусі столькі, што нават я і сам не ўсю яе магу ведаць.

***— Вы археолаг архітэктуры. Як выглядае становішча з рэканструкцыяй, аднаўленнем помнікаў архітэктуры?***

— Я б сказаў, не так і дрэнна, нас стрымлівае толькі кепская фінансавая сітуацыя. У цэлым, што датычыцца гісторыі архітэктуры, мы яшчэ раней выдалі аднатомнік „Архітэктура Беларусі". Перад гэтым, адзіная рэспубліка ў СССР, якая за савецкія грошы выдала шматтомны „Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі". Таксама выдалі пяцітомную „Гісторыю беларускага мастацтва", „Этнаграфію Беларусі", перавыдалі дзесяцітысячным накладам „Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва" Міколы Шчакаціхіна. Мне ўдалося выдаць даследаванні Івана Хозерава. Такім чынам у галіне архітэктуры мы змаглі зрабіць яшчэ больш, чым у галіне проста археалогіі і гісторыі.

Нягледзячы на цяжкасці з фінансаваннем, адбудова Мірскага замка працягваецца, хутка будзе скончана рэстаўрацыя Лідскага замка, пакрысе адбудоўваецца Верхні горад у Менску. Адбудаваўся касцёл св. Андрэя ў Слоніме, які быў цалкам накананаваны на разбурэнне. Адбудоўваюцца шматлікія храмы, як каталіцкай, так і праваслаўнай канфесій. Дарэчы, адбудавана ў Віцебску Дабравешчанская царква, як муляж. Там ідуць спрэчкі за форму адбудовы, усё ж такі лепш мець храм, чымсьці сметнік пасярод горада, на тых мурах, якія засталіся.



***— Які перыяд гісторыі Беларусі найменш вядомы?***

— Перыяд савецкага панавання. Самая белая пляма — гэта гісторыя Беларусі XX стагоддзя. Калі XIX стагоддзе вывучана даволі някепска, ранейшыя часы, дзякуючы дваццацігадовым даследаванням археолагаў, таксама. У гісторыі матэрыяльнай культуры мы выйшлі на адно з першых месц Еўропы і кончылася гэта выданнем унікальнай „Энцыклапеды археалогіі і нумізматыкі". А вось гісторыя XX стагоддзя самая, на маю думку, нераспрацаваная і самая заблытаная. Тут трэба працаваць і я вельмі рады, што адзін з маіх вучняў, Алег Дзярновіч, заснаваў архіў найноўшай гісторыі — першы прыватны архіў, дзе яны збіраюць усе сведчанні сучаснай гісторыі. Ужо выдалі першую кнігу: „Вясна 1996 года". Яны збіраюць улёткі, газеты, розныя дакументы. Самае галоўнае для нас — гэта XX стагоддзе.

***— Ці адчуваецца ціск бягучай палітыкі на працу гісторыка?***

— Вядома. Ідзе ціск шалёны, асабліва ён быў разгарнуўся летам 1996 года, калі хацелі выкінуць са школ усе старыя падручнікі...

***— Старыя, гэта значаць, пачатку 1990-х гадоў.***

— Так, нашыя. Для іх старыя. І самая галоўная небяспека была ў намаганнях павярнуць беларускую гісторыю ў старое рэчышча. Тады заснавалася Асацыяцыя беларускіх гісторыкаў і ў „Народнай газеце" далі адпор усім гэтым цемрашалам. Аказалася, што подпісаў там было за дзвесце чалавек і падпісалі нават тыя гісторыкі, якія былі альбо нейтральныя, альбо яшчэ да нядаўняга часу на тым баку. Пасля гэтага масавага адлупу, зараз нейкая такая раўнавага, нападкаў у прэсе на нас няма. Канешне, душыцца сучасная гістарычная навука, напрыклад, невядома, калі будзе чацвёрты том „Энцыклапеды гісторыі Беларусі". Замяталін нядаўна разагнаў гістарычную рэдакцыю выдавецтва „Мастацкая літаратура" на чале з Уладзімірам Арловым. Выкінулі там з планаў усе гістарычныя кніжкі і цяпер будзем выдаваць іх толькі прыватным чынам. Гэта вялікая страта, бо мы шмат чаго мелі ў планах.

Але трэба адзначыць, што ў пачатку гэтага года такіх яркіх наскокаў ужо не было. Памянялася сітуацыя, пацярпеў фіяска так званы саюз з Расеяй, вельмі актыўна выйшлі людзі на плошчы, на вуліцы, таму змагацца з гісторыкамі ўжо няма часу. Улада ў асноўным змагаецца ўжо з тымі, хто выходзіць на вуліцу.

***— Ці напэўна саюз з Расеяй пацярпеў фіяска? Усё ж рыхтуюцца нейкія новыя этапы, рэферэндум.***

— Тут цікавая рэч, упершыню Лукашэнка адмовіўся праводзіць рэферэндум разам з Расеяй. Упершыню заявіў, што ён на раздарожжы, як Леў Сапега. Гэтае параўнанне гаворыць аб тым, што наша, гісторыкаў, работа дайшла да такога ўзроўню, што Лукашэнка ўжо ведае, хто такі Сапега. І ўжо ён таксама думае, куды пойдзе Беларусь.

**Інтэрв'ю ўзяў Мікола Ваўранюк**

*Фота Юркі Паплаўскага*

# Сумнае вылучэнне

Хацелася б часам нешта добрае напісаць пра сучасную Беларусь, але хаця невядома як чалавек бы стараўся, цяжка пераканаць, перш за ўсё самога сябе, што адбываецца там нешта вартае прадстаўлення ў станоўчым тоне. Гляджу пастаянна беларускае тэлебачанне, чытаю рэжымныя і апазіцыйныя газеты, каб знайсці прынамсі след дарогі да нейкага аптымістычнага вобразу краіны. У тэлебачанні штораз больш падобная да нябожчыцы Інга Хрушчова прадстаўляе кожнага дня хроніку жыцця і роздумаў „Кіраўніка Дзяржавы". Калі б у оруэлаўскім рамане „Год 1984" Вялікага Брата памяняць на Кіраўніка Дзяржавы, кожнае інфармацыйнае выданне „Панарамы" ў беларускім тэлебачанні можна было б успрымаць як чарговы адрэзак тэлесерыяла знятага на падставе гэтай кніжкі. Пасля хронікі з жыцця прэзідэнта Лукашэнкі тэлегледачам прапануецца пералік карысных пераўтварэнняў у іх жыцці, якія будуць вынікам паспяховага завяршэння „інтэграцыі" з Расіяй. Трэцяя і апошняя частка тэлевізійных навін прысвячаецца прэзентацыі гаспадарчых дасягненняў Беларусі, якая праводзіць сёння эксперыментальную эканамічную палітыку званую „рыначным сацыялізмам". Паводле рэжымных сродкаў масавай інфармацыі, усё развіваецца паспяхова — ужо спынена падзенне вытворчасці, узрастае плата, а людзі штораз больш задаволены жыццём.

У „Звяздзе", „Народнай газеце", „Савецкай Беларусі" часам палову газеты займаюць „Указы Прэзідэнта". Гэта ў знакамітай большасці творчасць вярхушкі „вертыкалі". На публікацыю інтэлектуальнай творчасці журналістаў, працуючых там з благаслаўлення прэзідэнцкай службы, астаецца зусім мала месца. Але яны там пастаўлены не дзеля таго, каб думаць, а толькі прадстаўляць думкі іншых. У апазіцыйнай „Свабодзе" час таксама як бы затрымаўся недзе ў ваколіцы 1994 года. Газета апісвае сённяшні дзень, але няма ў ёй матэрыялаў з прапановамі як адмяніць гэтую кашмарную рэчаіснасць. У гэтым, зразумела, віна рэдакцыі вельмі малая. Разбітая і дэзінтэграваная дэмакратычная апазіцыя проста не ў змозе запрапанаваць ніякага варыянту выхаду з палітычнага і эканамічнага крызісу. Вакол Лукашэнкі і яго каманды астаецца толькі інтэлектуальная пустэча. Мінская моладзь, якая ахвярна выходзіць на вуліцы сталіцы Беларусі пратэставаць супраць таталітарнай сістэмы, можа паскорыць працэс яе разбурэння, але не можа запрапанаваць нічога ўзамен. Гаспадарчая і палітычная праграма, якую перад прэзідэнцкімі выбарамі выпрацавала кіраўніцтва Беларускага народнага фронту, сёння ўжо стала неактуальнай. Лукашызм знішчыў амаль усе структуры, у якія мела яна быць упісана. Для прывядзення Беларусі ў нармальнасць неабходная дэлукашызацыя, праведзеная на такіх самых прынцыпах як у Нямеччыне дэнацыфікацыя пасля заканчэння II сусветнай вайны. Нямеччыне тады дапамагла Амерыка, а нават заходнееўрапейскія краіны — ахвяры фашысцкага імперыялізму. Але хто дапаможа Беларусі. Дэмакратычная і багатая Германія неабходная была для нармалізацыі палітычнай сітуацыі ў Еўропе. Беларусь мала каго цікавіць і штораз часцей успрымаецца яна як элемент унутрырасейскай палітыкі. Цяжка будзе беларускім патрыётам навесці дэмакратычны парадак у краіне паралізаванай лукашызмам і радыяцыйным забруджаннем. Вяртанне ў мінулае, прапанаванае пануючай групай, з'яўляецца больш спробай дзеяння з галіны метафізікі чым палітыкі.

Беларусь вылучаецца ў Еўропе. Нідзе ўлады ў афіцыйны спосаб не праяўлялі такой пагарды для дэмакратыі. Нідзе ў свеце няма таксама такой краіны, якой кіраўніцтва ўсялякімі даступнымі сродкамі імкнулася б знішчыць усе элементы яе нацыянальнай адметнасці. Бывае, што ў такой ці іншай дзяржаве ўладу пераймаюць стаўленнікі чужых спецслужбаў, але нідзе не знішчаюць яны мовы, культуры, сімвалаў, душы народа. Наадварот, найчасцей дэманструюць аддана нацыянальнай традыцыі. Таксама ніводнага народа акупанты не прывялі да такога стану, што плешча ён у рукі, калі здраднікі за сярэбранікі прадаюць айчыну.

**Яўген Міранович**

Адгалоскі

# Трэба вярнуць памяць

З аднае стараны „заломамі, выгінамі..." вядзе дарога да сужыцця польскага і беларускага народаў, з другой стараны не хто іншы як толькі наш сусед уладкаваў для беларускіх патрыётаў лагер у „Даліне смерці".

Калісь, як і цяпер, няма каму высветліць да канца трагедыю беларускай інтэлігенцыі, жаўнераў і афіцэраў, якія тысячамі, у неверагодна жудасных умовах гінулі ў беластоцкім канцлагеры (глядзі, фрагменты апісання канцлагера „Даліна смерці" — Ів. Антонава — „Ніва", № 18). Напачатку беларускія бальшавікі, цяпер лукашэнкаўцы не зацікаўлены беларускай, не так і даўняй гісторыяй свайго народа, а тым болей не зацікаўлены палякі. Аднак справа ёсць. Нашы героі адступаючы ад бальшавікоў, пападалі з другой стараны ў польскія канцлагеры толькі таму, што беларускі хам захацеў быць панам на сваёй зямлі. Калі добра помню, аб „Даліне смерці" „Ніва" пісала і раней. Думаю, што трэба вярнуць памяць нашых патрыётаў, а ўлада не перашкодзіць гэтаму.

Далей думаю, што Беларускі саюз займецца добраўпарадкаваннем месца, дзе ляжаць нашы патрыёты. Трэба прынамсі паставіць крыж, каб было вядома, што ляжаць там хрысціяне.

**Міхась Куптэль**

# Памяці Максіма Багдановіча

**25 мая беларусы ва ўсім свеце ўшаноўваюць васьмідзесятую гадавіну з дня смерці нашага вялікага паэта Максіма Багдановіча.**

**Ніжэй змяшчаем вершы Дануты Бічэль-Загнетавай, прысвечаныя яго памяці.**

Данута Бічэль-Загнетава

## Памірала маці

Памірала маці. На крэсле
прасядзеў дзень — як год.
І куды та вас коні панеслі?
У Расею. На ўсход.

А на захадзе сонца грэе
і зрэдку вясна.
А Расея гора развее —
чужына яна.

Беларусь будзе светла сніцца —
неабдымны сусвет.
Будзеш кніжнікам у чыжынцаў,
бяздольны паэт.

А ўначы блукаеш чаго ты,
збіваеш расу?
Дагрызуць твае грудзі сухоты.
І дагрызуць.

Паддавацца, хлопцы, не смейце
хвілінам пакут.
Не ўцякайце, хлопцы, ад смерці,
жыццё наша тут.

Тут Пагоня наша паўстане,
дзе продкаў дамы.
Мы не парабкі, не расіяне.
Русіны — мы.

*5.04.1997*

## Тэрцэты

Памятаюць бяссонныя зоркі:
тут катаўся на санachках з горкі
у пальтончыку, ў мамінай муфце.

Плёў, бы пан павучок павуцінне,
трыялеты, тэрцэты, тэрцынне,
утаропіўшы вочы ў закуцце.

Ды, падкраўшыся да піяніна,
трымкаў полечку блуднага сына,
не змарнуе якога чужына...

Пяць гадоў — і дзяцінства глынула
крыважэрная злая акула —
маладая Расея, як скула.

*16.03.1997*

## Месяц і зорка

*Не, зорка, мне было не больна.*
***Максім Багдановіч***

Зямлі драбнюткая раслінка —
жыццё пакінута другім.
У небе месячык Максім,
а з ім і зорка Вераніка.
Цямрэчу асвятляюць нам:
глядзіце ўвыш — натхненне там.

Пакутная ў адхлань дарога
пятляла з Яраслаўля ў Менск, —
ён думаў дома болю менш...
А з Менску ў Ялту і да Бога.
А нам застаўся чысты верш.
А пекнасць зор не мае меж.

*3.04.1997*

## Максім і Людвіка

Максім з Людвікай у ваенным
Мінску.
Зіма суровая, расстанне блізка.
Не даў ім Божа ні вясны, ні лета,
Але пакуль не думаюць пра гэта.

Гародню ўспамінаюць добрай
казкай.
Паміж Садовай і Гараднічанскай
Крывая кладачка на Гарадніцы.
Яна дагэтуль кожнаму з іх сніцца.

Два беражкі злучаў масток
праз Нёман —
яе — жвіровы і ягоны — стромы.
На тым мастку пагойдацца любілі.
Ён зняў ёй туфлік і вадзіцу выліў.

На вуліцы Мінска ў ваенны студзень.
„Але жывём мы, як чужыя людзі,
і ні да чога дадумацца не можна”, —
так напісаў у картцы асцярожна.

## У тваім доме

Я жыву ў Тваім доме, Максіме.
Гэта лёс мой, мяне не прасілі.
На Твой голас іду Тваім следам.
Так, іду за вялікім Паэтам.

Саламяную казку ствараю.
Покуль райская птушка да раю
даляціць з саламянае казкі,
за Цябе гавару „Анёл Панскі”.

Вось заходзяць да нас кантралёры —
злыя, хворыя, з бруку, зканторы.
Раздражняе іх дух Твайго дому —
шчэ савецкую маюць аскому.

Вось прыехала вёсачка з лета
у святое дзяцінства Паэта,
дзе іх кнігі, іх продкаў імёны,
дзе катае іх конік натхнёны.

* * *

Каб не спаў Паэт у Крыме,
памаўчаў бы тут са мною.
Дык маўчу — з кім Божа прыме
ды маўчу сама з сабою.

Я Цябе сустрэць хацела,
каб сабачка бег за намі.
Але словам стала цела
ды вясновымі грамамі.

Гэта слова камень точыць,
адбіваецца на лёсах.
Гэта свецяць Твае вочы
у нябёсах.
У нябёсах.

## Ялта, 25 мая

У Ялце заўсёды свята.
І Ялта не вінавата.

Блакітнае чорна мора
не гоіць паэтава гора.

Падушка зліта крывёю.
Не цешыць радок прыбою.

Анёлы-чаіцы-плачкі.
Мора не ведае спячкі.

Ніхто мяне не кахае.
Мора прачыста ўздыхае.

Ляцела кроў, запяклася.
Душа ў бары засталася
каля курганаў і вежаў...
О, белае крылле вершаў...

Няхай узыдуць і сняцца!
25 і 5 і 15.

*4.04.1997*

## У светлай краіне

У самотнай, у светлай краіне, —
не даехаць тутэйшай дзяўчыне, —
там, у Ялце, душа яго стыне.

Дай жа, Божа, паэту Максіму
ў Божым садзе цяпло і радзіму,
дапусці да Прачыстага Ліку.

Дапусці да Прачыстага Ліку
і паэтак Ларысу, Людвіку,
Алаізу і... Вераніку.

# Дэбата па-беластоцку

12 мая г.г. у беластоцкім асяродку тэлебачання разыгралася першае ў яго гісторыі шоў-відовішча, удзел у якім прынялі прадстаўнікі беларускай і праваслаўнай грамадскасцей Беластока і праграмнае кіраўніцтва асяродка.

Паводле афіцыйнага паведамлення, якое дырэктар Войцех Варатынскі паслаў у рэдакцыі, шоў гэты меўся быць прэс-канферэнцыяй. Прэс-канферэнцыя мае аднак тую рысу, што прысутнічаюць у ёй два бакі: журналісты і апытваныя. Тутака, у тэлебачанні, аказалася, што журналістам нарыхтаваная трэцяя роля — публікі. За цэлым шоў сачылі сваім халодным вокам камеры, запісваючы кожны жэст і слова.

Жаркае святло юпітэраў асвятляла пляцоўку. Каманды занялі месцы. За адзін дэбатны стол заселі: Алег Латышонак ад Беларускага саюза ў Польшчы, праваруч яго Ян Сычэўскі ад Беларускага грамадска-культурнага таварыства, а па другі бок — а. Рыгор Місяюк, як прадстаўнік Праваслаўнай Царквы.

Склад другой каманды наступны: В. Варатынскі (праграмны дырэктар), Марк Ліберадзкі (адказны за праграмны блок для нацыянальных меншасцей „Самі пра сябе”) ды Юры Каліна і Юры Місяюк — адказныя за беларускую і ўкраінскую перадачы ў беластоцкім тэлебачанні.

А затым... хай пераможа лепшы!

Дырэктар В. Варатынскі прыгадаў на пачатку адкрыты ліст Беларускага саюза, у якім гаварылася пра дзеянні Беластоцкага тэлебачання, накіраваныя на праігнароўванне беларускай і праваслаўнай праблематык у эфіры — друкаваўся ён поўнасцю ў „Ніве”. В. Варатынскі падкрэсліў, што гэта не Беларускі саюз стварыў беластоцкі асяродак тэлебачання, а таксама і тое, што не можа ён, як грамадская арганізацыя, фармаваць яго праграмны воблік. Калі б задаволіць усе патрабаванні Беларускага саюза, сказаў праграмны дырэктар, дык у Беластоку было б тэлебачанне па-беларуску і... магчыма, што трапілася б у ім нейкая перадача на польскай мове.

А. Латышонак на памяркоўнай ноце адказаў В. Варатынскаму, што Беларускі саюз ніколі не выказваўся, быццам асяродак у Беластоку ўзнік выключна дзеля беларусаў. Патрабаванні ж Саюза ў дачыненні да публічнага тэлебачання трэба разглядаць выключна як праект, на які мае права тая ці іншая грамадская арганізацыя.

Праграмны дырэктар стаў дэталёва разбіраць паасобныя фармулёўкі адкрытага пісьма, патрабуючы ад А. Латышонка такіх жа дэталёвых тлумачэнняў. А. Латышонак цалкам у гэтую гульню ўцягнуцца не даўся — ён прыгадаў тут асноўнае: пра сядзібу дванаццатага (беластоцкага) асяродка тэлебачання вырашыла прысутнасць нацыянальных меншасцей у рэгіёне, а стараннi Беларускага саюза, каб асяродак памясціць у Беластоку, а не ў Ольштыне адыгралі сваю ролю. Калі ідзе пра прысутнасць перадач для нацыянальных меншасцей у асяродку, то старанні Саюза таксама ж не былі пазбаўлены сэнсу, бо ў пачатку існавання асяродка ягоны дырэктар Казімеж Пуцілоўскі быў супраць якіх-небудзь перадач на нацыянальных мовах меншасцей.

Памяркоўную падтрымку Беларускаму саюзу ў час дэбаты выказалі а. Рыгор Місяюк і Яўген Чыквін (з публікі). Айцец Місяюк прывёў прыклады Фінляндыі і Францыі (праваслаўная грамада там зусім малалікая), у публічных тэлебачаннях якіх існуюць асобныя праграмы прысвечаныя праваслаўнай праблематыцы. Я. Чыквін сказаў, што пазіцыя, якую заняў Беларускі саюз небеспадстаўная, паколькі ў беластоцкім асяродку тэлебачання была зроблена кардынальная памылка — раздзел свецкай і канфесійнай сфер у дачыненні да меншасцей.

Прысутны ў студыі Ян Сычэўскі сказаў, што справа тэлебачання заўсёды цікавіла БГКТ, не было б аднак добра, каб беларуская праблематыка і мова здзмінавалі перадачы ў тэлебачанні — такая перавага магла б мець адмоўныя наступствы. Затым Я. Сычэўскі дадаў, што беларускія медыі апанаваныя Беларускім саюзам, у сувязі з чым з боку людзей звязаных з БГКТ „чуецца многа ўнутранага бунту”. Я. Сычэўскі дадаў таксама, што яму вядома пра дзесяткі прыкладаў маніпуляцыі інфармацыяй у беларускіх медыях — закрануў тут пытанне прафесіялізму і маральнасці беларускіх журналістаў. Адказны за беларускія перадачы ў тэлебачанні Ю. Каліна папрасіў прывесці памянутыя прыклады, на што Я. Сычэўскі адказаў, што меў ён на ўвазе не тэлебачанне, а „іншыя беларускія медыі”. Паколькі аднак дыскусія датычыла тэлебачання, а не „іншых беларускіх медыяў”, то беларускія журналісты тэлебачання выйшлі з дэбаты без маральнага ўрону.

**Аляксандр Максімюк**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Данута Вавілаў

## Мама мае згрызоту

Мама села ў куточак.
У мамы мокрыя вочы.
Маўчыць, глядзіць чамусьці
на боты.
Напэўна мае нейку згрызоту...
Я перад мамаю стала акцёркай —
Нават не глянула; ёй вельмі горка.
Падаравала я ёй арэшкі —
Аднак нічога — няма ўсмешкі.
Сяду я зараз ля мамы,
Абыму маму моцна рукамі
І ціха шапну у вушка:
„Мамулю, мая жабулю!
Мамулю, мая вяснушка!..”
Мама на гэта ўсміхнецца
І скажа: „Мая дачушка!”

*З польскай пераклаў*
*Мікола Ваўранюк*

*Адна з наймалодшых салістак агляду Марта Бабулевіч з бельскай „тройкі”. Дзяўчынка праспявала песню пра маму таксама. Яна на здымку разам з мамай.* Фота Г. Кандрацюк

Этнаграфічны куточак

## Абрадавае печыва

Абрадавае печыва было важным элементам у святкаванні розных — сямейных і каляндарных — урачыстасцей. Ім сустракалі і частавалі гасцей, яго неслі ў поле ідучы першы раз сеяць, пакідалі ў перапёлцы на дажынках, давалі хатняй жывіне, каб добра вялася, ім клікалі вясной буслоў.

На вяселле пяклі **каравай** а апрача яго пшанічныя пірагі маладым — **месяц, падручнік, крыж** (булка з крыжам).

Памінальнае печыва заўсёды было прэсным (г.зв. мёртвы хлеб) — **корж, гарачыкі, галушкі**.

На радзіны звычайна рыхтавалі жытнія пірагі, якія дарылі бабкампавітушкам. Жанчын, якія ішлі ў адведкі, частавалі **пірагом-скрушком**. На каляды пяклі звычайна **жытнія пірагі**, якімі абдорвалі каляднікоў. Цікавае печыва выпякалі на вясновыя саракі. Пад гэтае свята пяклі **сорак піражкоў**) або **варэнікаў з макам**. У сярэдзіне Вялікага посту пяклі **храсцы-крыжыкі**, **саху**, **барану** (булку абкладзеную шышкамі), якія бралі ў поле ідучы сеяць. На Благавешчанне абавязвалі **пампушкі**, **галёпы**, **буслава лапа**, і імі сустракалі буслоў. На Юр'я на Палессі пяклі **расяннік** і з ім хадзілі вакол жыта, а на Пружаншчыне — **піражок-юрок**, які клалі ў жыта і калі жыта яго не прыкрывала, гэта варажыла слабы ўраджай.

Летам на Купалле выпякалі салодкія піражкі — **каржы з мёдам**. Варта ведаць такія цікавінкі, бо прыведзеныя назвы печыва часта сустракаем у старых песнях, легендах, казках або ў дыялекце.

## Этнаграфічная крыжаванка № 21

Запоўніце клеткі словамі паводле значэння. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў. Усе словы крыжаванкі вы знойдзеце ў этнаграфічным куточку. Аўтараў правільных адказаў чакаюць цікавыя ўзнагароды — кніжка „Казкі дзяцей Беларусі”.

- пяклі на вяселле
- печыва, з якім выходзілі сеяць
- булка з крыжыкам
- памінальная круглая булка
- дарылі маладой
- прэсны памінальны пірог
- з макам на саракі
- пяклі на Благавешчанне
- печыва ў Вялікі пост
- агульная назва печыва з мукі
- жытні пірог
- ён прыдумаў абрады
- на Благавешчанне віталі імі буслоў
- памінальны праснак
- пяклі ў сярэдзіне посту і выходзілі з ім сеяць

**Адказ на крыжаванку н-р 17:**
**Магічная крыжаванка**: ліст, Ікар, сала, трал.
**Школьная крыжаванка Касі Леанюк**: Жураўліны ключ.

Узнагароды — **духмяныя фламастэры** — выйграла **Анна Каліноўская** з Махнатага, а **сегрэгатар** — **Эмілія Грэсь** з Гарадка.

Віншуем!

Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Зоркі” або чакаць іх у сваёй школе.

## Легенда пра Беларусь

Даўным-даўно на зямлі Белай Русі князь Днепраслаў узводзіў магутны замак. Многа год працаваў з дружынаю сваёй, каб ніводзін вораг не змог падступіцца да замка і авалодаць скарбамі беларускай зямлі. Калі замак пабудавалі, то ўвялі правіла: ніхто не павінен заходзіць са зброяй у яго. Госці пакідалі зброю перад варотамі, і іх сустракалі хлебам-соллю добразычлівыя беларусы. Сам Бог любіў гэтых людзей, самых мірных і працавітых у свеце. Ён даў ім багатыя лясы і прыгожыя сады, блакітныя азёры і крыніцы з гаючай вадой. Людзі складалі песні, вырошчвалі хлеб, гадавалі дзяцей і радаваліся жыццю і сонцу.

Аднойчы чорная страшная хмара завалакла неба, і на замак напаўза ўсялякая нечысць. Клікнуў дружыну Днепраслаў, загадаў мячы каваць, каб абараніць свой люд, сваю зямлю. Пачалася страшная бітва. І доўжылася яна дванаццаць дзён і дванаццаць начэй. Спярша пабілі войска чарцей, якія хацелі адабраць у беларусаў іх веру ў Бога і дабро. З пабітых чарцей павыпаўзалі ядавітыя змеі, якія хацелі атруціць чыстую ваду азёраў і крыніц. Прыскакалі пярэваратніваўкалакі, ненажэрныя і бяздушныя, якія марылі павытоптваць жытнёвыя палі і абтрэсці ўсе сады. Вялізную сілу даў Бог Днепраславу і дружыне яго. І сталі воямі самыя мірныя людзі-беларусы, паказалі ўсёй нечысці, што зямлю сваю ў крыўду не дадуць, што даражэй за ўсё на свеце Мір, Сонца і Свабода. І сонца выглянула зноў з-за хмар, і да гэтага часу свеціць яно працалюбівым і сумленным людзям.

Даўно няма ўжо Днепраслава, але жывуць яго нашчадкі і помняць: родная Беларуская Зямля — самая мірная і самая непрыступная для ўсякай нечысці на свеце.

**Дзіма Трушанаў, 6 клас**
*(Казкі дзяцей Беларусі)*

*Аня Сухадола з Нараўкі — яркі вакальны талент.* Фота Ганны Кандрацюк



Талон „Зоркі” № 21
25.05.1997

# Агляд беларускай дзіцячай песні

**9 мая гг. у Бельскім доме культуры праходзіў XX Агляд беларускай дзіцячай песні. На сцэне выступілі вучні з Гайнаўкі, Нараўкі, Ласінкі, Нарвы, Курашава, Кленік, Гарадка, Храбалоў, Кляшчэль, Чаромхі і Бельска-Падляшскага. Узровень выступленняў быў вельмі няроўны. Моцна хвалявала паўсюднае выкарыстанне плейбеку. Арганізатары БГКТ пачалі мерапрыемства пазней назначанай гадзіны.**

Але дзіцячая публіка аказалася цудоўнай. Са зразуменнем прыняла словы просьбы прабачыць. Аказалася, што ўсяму быў вінаваты спознены цягнік, якім з Варшавы дабіралася Гражына Плашынская, прадстаўнік Міністэрства адукацыі. На агляд прыехала таксама Зофія Транцыгер, віцэ-куратар з Беластока. Удзельнікі вельмі горача прывіталі сваіх гасцей.

І здалося, што завязваецца цікавая атмасфера. Першымі на сцэну выйшлі дзеткі з Гайнаўскага дома культуры. Іх чароўны рэпертуар (спявалі пераважна вяснянкі), добрае выкананне і цікавыя ўборы навялі радасны, вясновы настрой.

Яшчэ святлей зрабілася, калі на сцэну выйшлі „Лісічкі" з Ласінкі. Гэты дзіцячы гурт, які вядзе матушка Аліна Кос, спявае з кожным годам усё выдатней. Дадатковым атракцыёнам „Лісічак" з'яўляецца бесканкурэнтная салістка Паўлінка Пашко. На жаль, выступленне „Лісічак" было з плейбека. Абсалютны фурор выклікалі нараўчанскія „Душкі з пушкі". Дзеткі не толькі спяваюць чароўна, але і маюць казачнае афармленне для сваіх песень. Каляровае афармленне сцэны папаўняе гібкая харэаграфія. Апякункі „Душкоў з пушкі" — Аліна Саевіч і Зузанна Падэўская вельмі эмацыянальна перажывалі выступленні сваіх дзяцей. Яны танцавалі з дзеткамі ў час іх выступлення, хваляваліся, калі псавалася тэхніка. Тут трэба дадаць, што і „Душкі з пушкі" выступалі з плейбека. Таксама як і нарваўскі вакальна-інструментальны гурт „Пронар". Аздобай гэтага калектыву з'яўляецца галасісты саліст, дашкольны Ясь Шмэт. Варта дадаць, што гурт „Пронар" карыстаецца многімі інструментамі — гітарай, пузонам, бубнамі, піянінам, гармонікам. Выглядае на тое, што пад наглядам Генадзя Шмэта расце ў Нарве моцны авангардны гурт (трымайцеся, хлопцы!).

Прыгожа (хаця таксама „выступілі" з плейбека) спяваюць дзяўчаты ў Гарадку. Іх песні маюць гэтую мілагучную атмасферу, якую сустракаем толькі ў беларускіх народных песнях. І, як мне здаецца, ніхто на Беласточчыне не ўмее так спяваць беларускіх песень як спевакі з Гарадка.

Калі ідзе гутарка пра рэгіянальныя асаблівасці, то падляшскі стыль спявання найбольш чуецца ў „Вясёлцы" з Кленік. Шкада, што ўдзельнікі пазбягаюць арыгінальнага падляшскага фальклору. Большасць з іх жа родам з Падляшша. А многія з іх яшчэ штодзень карыстаюцца падляшскім дыялектам. „Вясёлка" вельмі добра выступіла на сёлетняй сцэне. Шкада толькі, што спявачкі неўзабаве закончаць школу. Мабыць і не будзе для іх нагоды прадаўжаць сваё майстэрства.

Сярод старэйшых выканаўцаў вылучалася Юліта Такарэўская з бельскай „тройкі". Памяналі крыху стыль (на больш дарослы) славутыя „Журавінкі". Добра, што не спявалі яны сваіх старых песень.

Затое іх „стары" рэпертуар часта выкарыстоўвалі дзеткі з Чаромхі, Кляшчэль, Храбалоў. Аказалася што дзякуючы касеце „Журавінак" наступіў пералом на дзіцячых аглядах. Іх песні вядомы амаль усім, таму і публіка не раз падхапляла словы і разам гуляла.

На жаль, арганізатары не падумалі пра рэжысёра канцэрта. Няроўны ўзровень выступаючых разбіваў, здавалася б, ужо завязаную атмасферу. Публіка таксама што і раз мянялася. Да таго псавалася тэхніка і „выступленні" з плейбека нервавалі слухачоў.

Ды і навошта дазваляць на такі спосаб спаборніцтва. Вядома, што спяваючы натуральна, спявак ніколі не дараўняе „прафесіяналу" з плейбека. Дарэчы і самі дзеткі адчувалі недарэчнасць сітуацыі, а некаторыя з іх проста смяяліся з сябе. Калі ласка, уявіце, „расспяванага" саліста і папсаваны плейбек. Канцэрт проста пераўтвараецца ў кабарэ, ды такое, што не затрымае публікі.

**Узнагароджана**

Конкурсная камісія ў саставе: Ала Дубэц (старшыня журы), Тамара Русачык (візітатар па беларускай мове), Уладзімір Сахарчук (дырыжор „Васілёчкаў") і Альжбета Тамчук (тэатральны інструктар у БДК) вылучылі наступных пераможцаў:

**Гран-пры** — „Душкі з пушкі" з Нараўкі.

**I месца:**

„Лісічкі з Ласінкі

і „Журавінкі" з ПШ № 3 з Бельска-Падляшскага

**II месца:**

— „Вясёлка" з Кленік

**III месца:**

— „Лясныя скамарохі" з Кляшчэль

і дзявочы гурт з Гарадка

**Узнагароджаныя салісты:**

I—III клас:

— Марта Бабулевіч з Бельска

і Мар'юш Лясота з Нараўкі.

IV—VIII клас:

— Паўліна Пашко з Ласінкі

і Анна Сухадола з Нараўкі.

**Спецыяльную ўзнагароду** атрымаў гурт „Пронар" з Нарвы.

**Узнагароды атрымалі таксама інструктары** Аліна Саевіч і Зузанна Падэўская з Нараўкі, Аліна Кос з Ласінкі і Генадзь Шмэт з Нарвы.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Нараўчанскія „Душкі з пушкі".*



*Спявачкі з Гарадка.*



*Квартэт з Гайнаўскага дома культуры.*



*Вакальна-інструментальны гурт „Пронар" з Нарвы. Спявае Ясь Шмэт.*

# Як Краснае Сяло капусту шаткавала

Усё ўжо мы перайшлі, гавораць адна перад другой „Красуні": было вяселле, хрысціны, пер'е дзерлі, валачобнае, а вось цяпер мы вырашылі паказаць... шаткаванне капусты.

І бабы паказваюць, як шаткавалі некалі капусту на вёсцы, з нейкай зацятасцю, упорам. Ніякай не шаткаўніцай, а звычайнымі нажамі, як было гэта даўным-даўно. Як бы на злосць гарадскім панюсям, што купляюць капусту ў мяшочках.

Паселі вакол капанькі і шаткуюць капусту тоненька-тоненька. Тады ўкідаюць яе ў бочку, якую таксама прывезлі з сабою. Узялі — а як жа! — і хлопца для ўбівання капусты. Доўга і старанна мыюць яму бабы ногі ў місцы, а толькі тады ўжо дазваляюць ускочыць у бочку.

Усё жанчыны робяць з вялікім гумарам і дакладна. Крышаць у капусту моркву, сыплюць соль, кмен. Журавіны? — Не, журавін мы не дадаем, кажуць краснасяльчанкі. — Журавіны ў нас не растуць!



*„Красуні" вырашылі паказаць... шаткаванне капусты.*

Праца жанчын пераплятаецца пры гэтым гумарам (як гарэлкі лоні напіліся, то капуста горкая была!), народнымі песнямі.

Усё гэта дзеецца на сцэне Нарваўскага асяродка культуры 11 мая гэтага года. Адбываецца IV агляд абрадных сцэнак у выкананні беларускіх калектываў Беласточчыны. На сцэне дзеецца усё лепш, а ў зале — штораз горш у параўнанні з мінулым хаця б годам, калі зала ГОКу ў Нарве была перапоўнена гледачамі і прадстаўнікамі розных устаноў. А сёння не было ўжо не толькі войта Нарваўскай гміны, якога не было і ў мінулым годзе, але і прадстаўнікоў Аддзела культуры Ваяводскай управы ды Ваяводскага асяродка анімацыі культуры. Да каго я не звярталася ў гэтых установах, усе здзіўлена пацісkалі плячыма: маўляў, не атрымалі ніякага запрашэння?! Кіраўніцтва ж Беларускага таварыства, якое арганізуе штогод гэту імпрэзу, лічыць, што ад часу, калі паявіўся „Kalendarz imprez kulturalnych województwa białostockiego 1997", ніякія запрашэнні аніматарам, адказным за ваяводскую культуру, непатрэбныя. Беларуская культура — гэта таксама культура Беластоцкага ваяводства, як і польская, і патрабуе з іх боку прынамсі не меншай увагі.

Гэтыя нашыя сумныя заўвагі ідуць уразрэз з выступленнямі самародных артыстаў. Большасць з іх удзельнічае ў беларускіх калектывах ужо шмат гадоў. Добра, што на плакаце напісана: агляд **абрадных сцэнак**, а не абрадных калектываў, бо калектывы гэта тыя самыя, спявачыя, але сёння яны маюць нагоду паказаць не толькі свае галасы, але і дасканалае сцэнічнае майстэрства.

Лягчэй гэта зрабіць тым больш, што на сцэне сёння — іх жыццё, традыцыі бацькоў і дзядоў. Адным словам, яны — у сваёй стыхіі.

Сёлета на агляд абрадных сцэнак прыехала сем калектываў: з Козлікаў, Краснага Сяла, Збуча, Арэшкава, Гарадка, Дабрывады і Старога Ляўкова. Нешта здарылася, бадай, у „Тыневічанак" і ў „Журавінак" з Агародніччаў, што яны не прыехалі, хаця мелі быць.

Сцэнкі асобных калектываў перапоўнены жывым народным гумарам. І гэта добра, бо надзвычай павышае сцэнічную каштоўнасць прадстаўлення. Публіка жыва рэагуе на дасціпныя тэксты.

Вось, напрыклад, жанчыны з калектыву ў Козліках (дзе не закрунецца Люба Гаўрылюк — зараз ёсць калектыў) сцвярджаюць: як увялі ў гарадах тыя секс-шопы, дык „тэпэр і баба нэпотрізбна!" Многа спраў абмяркоўваюць яны на „Вэчурках", вяжучы, шыючы, вышываючы, прадучы кудзелю: і жыццё рантыстаў на вёсцы, і нізкія цэны на сялянскія прадукты, і свае штодзённыя клопаты.

У гэты час прыбегла суседка да гаспадыні хаты (Люба Гаўрылюк), крычучы: „Ваша каза ў маім гародзе!" Ну, і што, супакойвае сябе Люба. Во суседава курка ўжо другі тыдзень у мяне нясецца — і я нічога не гавару.

А пасля — спевы, танцы, весялосць.

Малады (па стажу!) калектыў са Збуча пад кіраўніцтвам Кацярыны Ціханюк паказаў вельмі маляўнічую сцэнку „Адведкі". Тыпова: кожная з баб пачала расказваць, як гэта яна радзіла: „Ой, як узяло за хатою, коло вэрбы..." Асаблівай атракцыяй было дзіця-лялька, якое Кацярына і перавівала, і насіла, і давала бабцы патрымаць, і нават плакала за яго, зручна адвярнуўшы галаву ўбок: "Хлеба з цукрам пажавала мякусэнько, а воно нэ хочэ. Нэдоядок такі!"

Песні „Збучанкі" спявалі вельмі старыя, наскрозь тутэйшыя, а калыханку спявала Каця Ціханюк: „Ціха смотрыць месяц ясны ў калыбель тваю".

Стараліся выступаючыя жанчынкі, каб было і дасціпна, і прыгожа на сцэне, і згодна з традыцыямі. Некаторыя цэлы год рыхтуюцца, каб выступіць на такім аглядзе. А вось жа гарадоцкі калектыў рыхтаваўся ўсяго пару дзён. Але што ім, гарадчанкам, са стажам, якога можа пазайздросціць ім амаль кожны: выступаюць больш за сорак гадоў! Дадам, што пару асоб у калектыве — ад пачатку.

І ты глядзі: сучасная тэматыка на іх „Вячорках" была ўспрынятая бурнымі воплескамі. Расселіся гарадчанкі, хаця ў народных строях, быццам нейкія панюсі. Усё ж такі вёска жыве сённяшнімі справамі. Праблема, як зрабіць „бізнес" (каб ашукаць, вядома, іншага). Найлепш паставіць шлагбаум на сваёй зямлі, па якой прабягае шаша ў Баброўнікі, на граніцу. Во тады паскачуць, калі не заплацяць! (Апанентка: „Ой, то ж тую зямлю, казалі, нарваўскі „Пронар" выкупіў і гатэль паставіў!")

Усё, як бачым, з жыцця. І жыццё, яно цяпер такое, што вось, наракае Ніна Цыванюк, што хоць жанчына (Клава) як кветачка: ёсць на чым пасядзець і чым падыхаць, дык вось прыйшло такое малое, такое заморанае (Клавін муж) — і ўсе вячоркі разагнаў.

Цікавую сцэнку „Бяленне палатна" — стары, амаль забыты абрад — паказаў калектыў з Дабрывады пад кіраўніцтвам Валянціны Клімовіч, і такія ж старыя, аўтэнтычныя, былі іх песні.

Калектыў „Арэшкі" з Арэшкава ўпрыгожваў кветкамі „пэрэпэліцю". Яны прадставілі „Дажынкі".

А калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова паказаў абрад Купалля ў форме літаратурна-музычнага мантажу з песнямі і народнымі паданнямі, але таксама і са скокамі праз вогнішча (маладыя), крапіву (старыя) ды праз кветкі (дзеці). Закончылі сваё выступленне песнямі „Купалінка" і „Ой, рана на Івана". Кіраваў усім Мікалай Мяжэнны з Беларусі.

Мерапрыемства ў Нарве і добрае, і патрэбнае. У якасці аздобы выступіў дзіцячы калектыў „Лісічкі" з Ласінкі, які 9 мая ў Бельску, на ваяводскім аглядзе дзіцячай беларускай песні заняў першае месца.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*


*Абрад бялення палатна прадставіў калектыў з Дабрывады.*

# Разумны Войтак

Едучы цягніком з Бельска-Падляшскага ў Беласток, зараз за Страбляй, на сенажацях каля ракі Нарвы можна ўбачыць у трыснягу лебедзя. Часам сядзіць ён на гняздзе, некалі плавае па разлівах.

Вось што мне расказаў кіраўнік цягніка, якім я дабіраўся на Юр'е ў Беласток:

— У Бельску пагрузіліся да мяне ў поезд некалькі рыбакоў, якія ехалі ў Страблю на рыбалку. Заняўшы месца побач службовага купэ, пачалі такую гаворку:

— А „канапку" ты ўзяў з сабою? — пачуўся нечый голас.

— Узяў, — адказвае калега.

— І яму прыхваціў?

— А быў у мяне іншы выбар? — жартам адказвае рыбак. — Ведаеш сам, які наш Войтак. Калі не дастане сваёй долі, рыбы не зловім...

— А што гэта за Войтак? — высунуўшы галаву са службовага купэ, пацікавіўся я.

— Ведаеш, кіраўнік, — загаварыў пажылы рыбак у доўгіх гумовых ботах, — да нас прычапіўся такі адзін жартаўнік. Мы яго Войткам назвалі. Гэта лебедзь. Адкуль прыляцеў, ніхто не ведае. Толькі бяду зараз з ім маем. Пакуль не дастане сваёй долі, не дасць нам спакойна вудзіць. Кружыць каля нашых вудак, дзёргае імі. Ніякая рыба не клюне. І так мы яго прывучылі да пачастунку. Накормім, адплывае...

— І я маю паверыць у гэту казку? — ухмыльнуўшыся, кажу прыяцелю.

— Як хочаш... кажу тое, што сам пачуў.

Праехаўшы чыгуначны мост у Страблі, мы пачалі ўглядацца ў той бок, дзе павінен быць Войтак. Сядзеў ён на гняздзе, прытуліўшы ўніз сваю доўгую шыю. Пэўна драмаў, а мо проста задумаўся: „Пачастуюць сёння мяне рыбакі «канапкай», ці не?"

**Уладзімір Сідарук**

# Дзень Перамогі ў Замбраве

День Перамогі — дзень заканчэння II сусветнай вайны ў Еўропе мае дзве даты: на Захадзе, у тым і ў цяперашняй Польшчы, ён 8 мая, на Усходзе — 9 мая. Пасярэдзіне іх, цэлую ноч ішоў праліўны дождж, быццам самыя Нябёсы аплаквалі дзесяткі мільёнаў ахвяр тае вайны. У пятніцу 9 мая ў Замбраве ўрачыстае адкрыццё новых абеліскаў у памяць нядаўна туды перапахаваных савецкіх *мальчишек*; пісаў я пра іх тры тыдні таму.

Урачыстасць пачынае паніхіда, якую правяць праваслаўныя святары з Беластока перад помнікам з чырвонай зоркай; магчыма, гэта першае набажэнства за пахаваных там. Далучаецца да іх свяшчэннік, што прыехаў разам з савецкімі ветэранамі; на яго грудзях баявыя медалі. Ля галоўнага помніка ганаровая варта салдат Войска Польскага і сцяганосныя патрулі замбраўскіх ветэранаў. Пасля багаслужбы ўскладанне кветак: вянкі з бела-чырвонымі стужкамі ад ломжынскага ваяводы, ад камендатуры замбраўскага гарнізона, ад тамашніх ветэранскіх арганізацый, ад гарадскіх улад; на апошнім надпіс: „Tym, którzy zginęli tak młodo". Ёсць вянок з сіне-жоўтай стужкай, сінімі і жоўтымі кветкамі і надпісам: „Воїнам, павшим у боях з фашизмом, Посольство України в РП". І яшчэ адзін вянок — з чырвонымі кветкамі і чырвона-зялёнай стужкай; на ёй, на адзінай з усіх, ні слова: без мовы тая чырвона-зялёная дзяржава... Падыходзяць і прыехаўшыя з Гродна ветэраны і падносяць сваім пахаваным там суайчыннікам хто букет, а хто толькі кветку. Апрануты яны бедна-бедненька; усе яны пачыналі вайну ў беластоцка-гродзенскім выступе. Мала ўжо іх асталося ў жывых — наймалодшым з іх цяпер будзе семдзесят пяць...

З замбраўскіх вайсковых могілак ветэраны вайны едуць у вайсковую часць у Чырвоным Бары. Еду разам з імі, сядаю побач 77-гадовага Васіля Іванавіча Немца, які цяпер жыве ў Чаркасах на Украіне. У 1940-м годзе, пасля заканчэння тэхнікума, яму запрапанавалі або паступіць у вуз, або ісці ў армію. Ён падумаў: адслужу два гады, каб спакой мець... Пачынаў ён вайну каля Аўгустова. Пасля прарыву фронту немцамі прабіраўся ён цераз Смаленск і Вязьму да сваіх. Служыў у Калінінскім, Волхаўскім, Сцэпным і, нарэшце, у Трэцім Беларускім франтах. Браў Кёнігсберг. Пасля, з Усходняй Прусіі яго ваенная часць была перабазіравана ў Манголію, на вайну з Японіяй. У Кітаі японцы мелі слабую тэхніку, але былі вельмі небяспечныя: нажамі кідалі. То білі па іх з аўтаматаў так, што аж ствалы чырванелі. Прайшоў у баях пустыню Гобі, горы Вялікага Хінгана, аж у Порт-Артур. Дэмабілізаваны ў 1947 г. Прапанавалі яму астацца ў Порт-Артуры, за 800 рублёў у месяц; вялікія гэта тады былі грошы. Але ж хацелася на радзіму. Заехаў у свой Крывы Рог, а там галеча. У Порт-Артур ужо не было магчымасці вярнуцца, стаў на рудную шахту, пасля будаваў дарогі, а нарэшце настаўнічаў. Цяпер яшчэ збірае зёлкі, дапамагае патрабуючым. Паказвае мне сваё запрашэнне на Свята Перамогі, на магілы сваіх баявых таварышаў. Стаіць там словы з ізраільскага журнала „Русское слово":

*Да будут с нами их геройство*
*и преданность*
*Да отразится в делах наших*
*их чистота*
*Да будут пребывать души их*
*в обители вечной жизни*
*Да будут священными их имена.*

У Чырвоным Бары прыём ветэранаў вайны ў вайсковай часці. Адкрывае консул Слямнёў. „Спасибо Вам, что Вы спасли нас от чумы" — дзякуе ветэранам. „Za pamięć poległych i za zdrowie żyjących" — падымае тост камандзір часці. Са словамі падзякі за арганізацыю паездкі выступаюць ветэраны. Іраіда Макеева з Гродна вядзе ветэранскі архіў; выдала яна кнігу толькі для ветэранаў, але робіць адступленне і дорыць яе консулу. З Самары прыехаў чалавек, які правёў вайну ў гітлераўскіх канцлагерах; ад свае ветэранскае арганізацыі прывёз сціпленькія граматы на простай паперы, адну з іх уручае консулу Слямнёву з нізкім паклонам за памяць пра далёкае мінулае. Ветэран з Уфы, якога вайна засцігла каля Дубровы і Новага Двара, перадае ўсім „большой башкирский Салам". Усе хваліюоцца, кожны хоча выказаць свае пачуцці...

На сталах — сціплы пачастунак: чай, газіраваная вада, хлеб, цукеркі і агуркі. Асабліва апошнія паказваюцца мне доказам славутай польскай гасціннасці: усе ж у Польшчы ведаюць з анекдотаў, што галоўнай стравай на рускім стале з'яўляюцца *огурцы*. А ў войску анекдотаў расказваюць больш як дзе... Цікава, калі б у Чырвоны Бор прыехаў ветэран вайны Боб Доўл, ці і яго таксама частавалі б цукеркамі з агуркамі.

Сяджу побач жанчыны з-пад Крамянчуга, што на Украіне. Атрымоўвае яна 69 грыўняў пенсіі. Хлеб каштуе 70 капіек, значыць за сваю пенсію можа яна купіць 100 булак хлеба. Адкуль жа браць грошы на другія расходы, напрыклад на кватэру. Шчасцем, яна — ветэран, мае льготы, аднак тая яе пенсія мусіць хапіць яшчэ сыну і нявестцы: сын працуе лекарам, але не плацяць ім па некалькі месяцаў; фірму нявесткі распусцілі. Хто яшчэ мае *дачу* за горадам, той можа яшчэ нешта заварыць на зіму. Галасавалі яны на Кучму; многа ён абяцаў, але нічога не атрымалі. Адносіны ўкраінскіх ветэранаў да Кучмы такія, як тут у нас да Валэнсы. І да Чарнавіла таксама маюць прэтэнзіі: каліс быў у апазіцыі, а цяпер з Кучмою згаварыўся...

Ветэраны паказваюць свае грошы. У Беларусі купюры з зайцамі, ваўкамі і мядзведзямі ўжо не ходзяць, толькі яшчэ зубр астаўся. На ўкраінскіх купюрах партрэты князёў Уладзіміра і Яраслава, гетманаў Мазэпы і Хмяльніцкага — людзей, якія заслужыліся для нацыі; так, як наогул на банкнотах у свеце.

**Аляксандр Вярбіцкі**

## Сіла жыцця дрэмле ў каранях

[1 ☞ працяг]
ў Маскве. Калі вярнуліся з бежанства, выступала яна ў тэатрах Беластока, Познані, Варшавы. Пасля вайны трапіла ў Англію, дзе і памерла.

Расказ пра сям'ю Германюкоў з Бялок і стары могільнік з салíднымі таблíцамі напамінаюць пра невераготна багатую мінуўшчыну Трасцянкі. Шкада толькі, што памяць у вяскоўцаў абрываецца пасля трох пакаленняў.

Трэба дадаць, што жыхары Трасцяніцкай парафіі часта наведваюць могільнік. Апрача Вялікадня і *Радуснай* святкуюць з памерлымі і восеньскае свята Увядзення.

— Апошнімі гадамі святкуюць і Święto Zmarłych. Прыязджаюць самаходамі з гарадоў, клічуць бацюшку і асвячаюць магілы, — кажа пра пакаленне сваіх дзяцей і ўнукаў цётка Жэня Лукашук.

Аднак найбольшае значэнне мае ў Трасцянцы яшчэ веснавое свята памерлых *Радусна* — праўдзівы аўторак (бо і такую сустрэнеце назву).

Зараз Радаўніца з'яўляецца дзяржаўным святам у Беларусі. Варта прыгадаць і этнаграфічныя запіскі з пачатку нашага стагоддзя. Яшчэ тады Радаўніцу святкавалі па-старому. Звычайна пасля набажэнства радня рассцілала на магільным насыпе абрус і абедала. Да абавязковых страў належалі яйкі, пірог-*паска*, куцця, мяса. У Трасцянцы, як успомніла старажылка Вера Богусь, прыносілі таксама кісель з аўса. Частку стравы пакідалі памерлым. Калі нябожчык пры жыцці любіў выпіць, лілі яму на магілу кілішак гарэлкі. У размовах успаміналі пакойнікаў, часам гучалі галашэнні. Людзі верылі, што ў гэты дзень ажываюць душы продкаў. Праўдзенне абрадавых рытуалаў накіроўвалася на тое, каб задобрыць душы продкаў, заслужыць іх садзеянне ў жыцці і гаспадарцы. У гэтай практыцы людзі знаходзілі духоўнае падмацаванне. Чалавечым інстынктам лавілі сілу жыцця, якая плыве ад сувязяў з каранямі.

Шкада, што не разумеюць гэтага паклоннікі фэстаў і каляровых блíскучак.

**Ганна Кандрацюк**

# Зварот да беларускіх суполак у замежжы

**30.04.97**

Управа ЗБС „Бацькаўшчына" паведамляе, што 18.04.97 г. адбылося пасяджэнне *Аргкамітэта па падрыхтоўцы Другога З'езда беларусаў свету*. Зацверджаны дата правядзення — 26-27 ліпеня 1997 г. у Мінску і асноўная тэма з'езда — **„Праблемы захавання беларускай прысутнасці ў свеце"**. Прынята праграма работы З'езда.

З мэтаю забеспячэння юрыдычнай моцы З'езда вызначаны наступны парадак прадстаўніцтва.

**У якасці <u>дэлегатаў</u>** на З'ездзе могуць прысутнічаць:

*— прадстаўнікі беларускіх суполак у замежжы (па аднаму дэлегату ад суполкі);*

*— сябры Вялікай Рады ЗБС;*

*— сябры Аргкамітэта;*

*— прадстаўнікі структур ЗБС з Беларусі і іншых арганізацый*, з якімі супрацоўнічае „Бацькаўшчына".

Дэлегаты вылучаюцца суполкамі і павінны мець пры рэгістрацыі на З'ездзе дакумент аб пацвярджэнні паўнамоцтваў (пратакол ці даведка). У выпадку, калі якая суполка не здолее накіраваць свайго прадстаўніка, патрэбна перадаць паўнамоцтвы іншаму дэлегату, які паедзе на З'езд, праз выдачу яму адпаведнага дакумента.

Пажадана, каб дэлегаты мелі з сабою таксама прапановы сваіх суполак аб кандыдатурах у новы склад Рады „Бацькаўшчыны".

**Другую частку ўдзельнікаў З'езда складуць <u>госці</u>**, яны ўдзельнічаюць ва ўсёй рабоце З'езда, акрамя выбараў. У якасці гасцей мы запрашаем усіх, каму цікавая асноўная тэма З'езда і хто мае магчымасць прыехаць, а таксама ўсіх жадаючых з Беларусі.

*Дзеля вырашэння арганізацыйных пытанняў неабходна як мага хутчэй даслаць нам спісы дэлегатаў і гасцей, каб можна было б выслаць канкрэтныя запросіны і пасведчанне афармленне пры неабходнасці візы. У спісах павінна быць указана:*

*прозвішча, імя, год нараджэння, адрас, дадзеныя пашпарта.*

Просім усіх сяброў Вялікай Рады, якія запрашаюць на З'езд у якасці дэлегатаў, тэрмінова паведаміць аб сваім намеры прыехаць ці не прыехаць на З'езд і вышэйназваную інфармацыю для запрашэння. У выпадку немагчымасці прыезду просім таксама дэлегаваць свае паўнамоцтвы іншым дэлегатам шляхам перадачы ім даверанасці, завераной вашым подпісам. Тыя, хто жадае па ўласнай ініцыятыве ўдзельнічаць у рабоце З'езда ў якасці госця, просім даслаць нам паведамленне дзеля высылкі запрашэння.

У адносінах да пытання аб фінансаваным забеспячэнні З'езда паведамляем аб рашэнні Аргкамітэта правесці форум на прынцыпе <u>самафінансавання</u> ў сувязі з вядомай усім складанай сітуацыяй.

***Просім замежныя беларускія суполкі знайсці магчымасці фінансаваць удзел у З'ездзе сваіх дэлегатаў. Госці ўдзельнічаюць у З'ездзе на самафінансаванні.***

Дзеля забеспячэння агульных расходаў пры ЗБС „Бацькаўшчына" ствараецца спецыяльны **фонд з ахвяраванняў і іншых паступленняў**. З фонду можа быць аказана дапамога некаторым дэлегатам і гасцям, якія не здолеюць знайсці сродкі на прыезд. Усім дэлегатам і гасцям будуць прапанаваны розныя варыянты расходаў, з улікам канкрэтных магчымасцяў і пажаданняў, аб якіх просім нам паведаміць.

Аргкамітэт і Рабочая група са свайго боку зробяць усё магчымае, каб забяспечыць вырашэнне арганізацыйных пытанняў з размяшчэннем, пражываннем і харчаваннем прыезджых.

***Запрашаем замежных беларусаў прыняць удзел у падрыхтоўцы і рабоце Другога З'езда беларусаў свету, а таксама па магчымасці скласці свае ахвяраванні ў фонд З'езда.***

Наш форум збіраецца не ў лепшыя для Беларусі часы, але тым больш неабходна прадоўжыць справу нашага яднання, не даць перапыніцца тым добрым сувязям, якія ўзніклі паміж беларусамі з розных краінаў свету. Гэта сталася ўпершыню ў гісторыі нашага народа і мы павінны мець адказнасць за тое, каб наша супольнасць не парушылася, каб мы і надалей адчувалі падтрымку адзін аднаго, надзейнае плячо сябра і сяродзіча.

***Да сустрэчы на беларускай зямлі!***

**Прэзідэнт ЗБС „Бацькаўшчына"**
**Радзім Гарэцкі**
**Старшыня Рады**
**Ганна Сурмач**

<u>Па ўсіх пытаннях работы З'езда звяртацца ў сядзібу ЗБС па адрасу:</u>

Рэспубліка Беларусь
220050 г. Мінск
вул. Рэвалюцыйная, 15
ЗБС „Бацькаўшчына"
тэл.-факс 76-91-94, 20-93-51

# Нашы карані

**СШ. Калі адданасць стаецца фанатызмам**

Іасафат Кунцэвіч нарадзіўся ў 1580 годзе ў горадзе Уладзіміры Валынскім у сям'і скромнага шаўца. Ягоны бацька захапляўся чытаннем Свяшчэннага Пісання, прыхільнасць да царквы і навукі прывіў сыну, і ён рос на здольнага, чулага хлопца. Падчас навукі ў брацкай праваслаўнай школе ў Вільні яго прыкмецілі езуіты і звабілі ў сваю акадэмію. Юнак аказаўся хісткім у веры праваслаўнай і пад уплывам езуітаў перайшоў ва унію.

Фанатычны уніяцкі мітрапаліт Пацей учыніў Кунцэвіча сваім прыслужнікам і разам з уніяцкім біскупам Вельямінам Руцкім узяліся рыхтаваць Іасафата на уніяцкага дзеяча. На вялікі жаль, малады чалавек аказаўся вельмі падатлівым матэрыялам і неўзабаве стаў заядлым прапаведнікам уніі. А калі сам Пацей пастрыг яго ў манахі, затым узвёў у настаяцелі Троіцкага-Віленскага, Жыровіцкага і Быценскага манастыроў, Кунцэвіч ператвараўся, як то часта бывае з неафітамі, г.зн. свежа наверненымі, у раз'юшанага зніштажальніка праваслаўя і фанатычнага насаджальніка уніі. Таксама праваслаўныя як і каталікі зненавідзелі Кунцэвіча і празвалі яго „душахватам", асуджалі яго фанатызм. Аднак уніяцкі мітрапаліт Руцкі падбухторваў яго да яшчэ болей актыўнай дзейнасці і паставіў полацкім арцыбіскупам, аддаўшы яму ва ўладанне паўночна-ўсходнія беларускія землі з Полацкам, Віцебскам, Оршай, Магілёвам.

Іасафат з азвярэннем накінуўся на ўсё праваслаўнае на тых землях: у Магілёве стаў граміць цэрквы і прымушаць праваслаўных пераходзіць ва унію, магілёўчане аказалі яму ўзброенае супраціўленне, стрэламі прагналі яго і жыхары Оршы. Але Кунцэвіч пісаў даносы каралю, той прысылаў пацыфікацыйныя харугвы войска і праследаванне праваслаўных працягвалася. Гэта выклікала супраціў ва ўсёй дзяржаве.

Пасол Дрэвінскі ў 1620 г. на сейме ў Варшаве гаварыў: *Ужо ў вялікіх гарадах цэрквы запячатаны, царкоўная маёмасць разрабавана, у манастырах няма манахаў — там былда трымаюць; дзеці без хрышчэння ўміраюць, целы памёршых без царкоўнага абраду з гарадоў, як падла вывозяць...* Ні кароль, ні ягоныя чыноўнікі не прыслухаліся таксама скарзе беларускай і ўкраінскай шляхты з падрабязным пералікам злачынстваў Кунцэвіча над праваслаўнымі; у ёй, між іншым, гаварылася: *біскуп полацкі летась наўмысна загадаў жыхарам дзеля большай крыўды выкапаць* (праваслаўных — *М. Г.*) *нябожчыкаў, толькі што пахаваных на могілках і выкінуць... на з'ядзенне сабакам.* Кунцэвіч нахабна пачаў дамагацца ад канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі дапамогі ў знішчанні праваслаўя. У адказ Леў Сапега, сам нованавернуты католік, вельмі востра асудзіў дзейнасць арцыбіскупа, яго бесчалавечнасць, злоўжыванне ўладай. *Вы,* — пісаў яму канцлер, — *навялі небяспеку на дзяржаву, а магчыма і пагібель усім нам, католікам. Вось плён хвалёнай уніі, бо калі айчына ўзварушыцца, дык не ведаю, хто ў той час з вашай уніяй будзе.* Сапега не памыліўся — праз 25 гадоў казакі на чале з Хмяльніцкім расправіліся не толькі з уніяй.

Але заслеплены фанатык Кунцэвіч не слухаў добрых парад. Ён у лістападзе 1623 г. са сваім прыватным войскам кінуўся граміць цэрквы, капліцы, здзекавацца над праваслаўным духавенствам і насельніцтвам Віцебска. Віцебляне схапіліся за зброю, уварваліся ў біскупаў палац, знайшлі схаванага ў нейкай нары Іасафата, вывалаклі на вуліцу, забілі, а труп укінулі ў Дзвіну. Кароль жорстка расправіўся з Віцебскам: горад пазбавіў магдэбургскага права, саборная царква Благавешчання была разбурана і на кошт мяшчан пабудавана новая уніяцкая, іншыя цэрквы захоплены уніятамі. Каля 100 чалавек было засуджана на смерць, але 80 з іх удалося скрыцца. Вось які быў плён аднаго фанатыка.

**Мікола Гайдук**

# Божа, будзь міласэрны

Калі я быў яшчэ зусім малым хлопчыкам — бо дзіцём я не быў ніколі — чуў, як нашы людзі, наракаючы на зладзеяў, разбойнікаў або іншую дрэнь, гаварылі: „Ого, Госпадзь доўготэрпэлівы і многомылосцівы, але як ужэ дасць, то дасць". Я вельмі гэтага баюся, бо заўсёды памятаў, што аднойчы ноччу ў кагосьці ўкраў агурок з агарода, калі мне вельмі хацелася есці, або другі раз у Пэтрыковага Рыгора з-пад абруска патайком, каб ён не бачыў, а мне не засароміцца, выцягваў крышынкі хлеба.

Дзядзька Рыгор, седзячы ля печкі, чытаў мне ўголас Евангелле, а я яго слухаў, але сваё думаў: „Чаму ў яго на стале ляжыць хлеб, а ён яго не есць?" Пару разоў засунуў я руку пад абрусок, ушчыпнуў па крышынцы хлеба надзёнага — жарнавіка з закальцам, які не даваўся хутка шчыпацца, бо прыліпаў да пальцаў. Пасля падумаў: „Дзядзька мне чытае святую кнігу, а я — бачыш, злодзей — краду ў яго хлеб!" і перастаў, хаця ад гэтых дзвюх крошак у роце, бы ў сабакі, паявілася сліна, а мой страўнік яшчэ больш бурчэў і балеў ад голаду, чым перад пакражай гэтых крошак. Аднак пачуццё грэху перамагло голад і маё зладзейства.

Цяпер, калі я магу есці ўсё, што толькі захачу, прыпамінаю сабе яскравыя моманты з дзяцінства, дзе я не павінен быў аж так баяцца Бога, бо Ён не злаваў бы на мяне за пакражу кавалка хлеба ці агурка, бо я ж заўсёды быў галодны і ніхто гэтага не бачыў. Прытым я ж быў малы і нічога не ведаў, што трэба ведаць аб грахах.

І вось сёння здзіўляе мяне вельмі, калі я чую і бачу, як грашаць менавіта свядомыя людзі і тыя, хто не з'есць нават сённяшняга хлеба без масла і каўбасы. Грашаць наўмысна, каб толькі паставіць на сваім, каб толькі мець рацыю, не лічачыся з іншымі.

Часта, калі слухаю беларускую перадачу па Беластоцкім радыё, чую плачлівы голас дзяўчыны, якая просіць Бога, каб забраў яе жыццё і выратаваў Айчыну. Божа, колькі разоў я ўжо гэтую песню чуў, а Ты, Госпадзе, ні гугу. Гэта ж просьба, Магутны Божа, не абы-каго, а адукаванай і глыбакаверуючай, у чым я перакананы, дзяўчыны...

Паставіў я шматкроп'е, бо толькі ў гэтую хвіліну прыйшла мне ў галаву вось такая думка: „А колькі ж мае каштаваць жыццё якогасьці засмарканага аўтара слоў, ці асобкі, якая гэты ідыятызм спявае? За жыццё, няхай сабе і пару маладых людзей Бог мае выратаваць яе айчыну, калі Бог ведае, а гэтыя выканаўцы песні нават не дадумваюцца, што гэтую айчыну Ён сам пакараў на многія гады. Пакараў ужо тады, калі дазволіў, па прычыне грэшнікаў абыякавых, каб яе „вызвалялі" такія „сапраўдныя беларусы" як — барані Божа — Кастусь Каліноўскі, Булак-Балаховіч ці Язэп Пілсудскі ды іншыя „нацыянальныя героі". Яшчэ і сёння чуем такую песню-просьбу, у якой з шалам гаворыцца: „Ой, вядзі, вядзі нас у бой, бацька Балаховіч!" Яны і трупа паднялі б, каб толькі сваю Айчыну аддаць ва ўладанне „сапраўдным беларусам", а не звычайным беларусам.

І тут раптам за гарчычнае зерне хтосьці хоча атрымаць Сонца, цанішы сваё жыццё даражэй, чым Айчыну. Аўтары слоў і выканаўцы, спявайце ўсё, што хочаце рэальна ды не абражайце Бога сваёй веліччу. Трэба захаваць суразмернасць у адносінах да творчасці. Калі б я напісаў нешта такое, як казакі хацелі спаліць Галю ды „назбыралы хмызу й підпалылы сосну від горы до нызу", дык мяне не толькі абсмяялі б, але і аблаялі. Ну, бо які такі дурны казак з хмызам пад пахай палез бы на сасну, каб яе падпальваць ад кароны? Галя нічога акрамя страху не адчула б. А сасма жылася б як за часоў святой інквізіцыі толькі тады, калі б яе прывязаную да сасны „підпалылы знізу".

Праваслаўны народ у сваіх малітвах ды віншаваннях просіць Бога доўгага і шчаслівага жыцця, а не абражае Усемагутнага такімі недарэчнымі „просьбамі". Айчына жыць будзе і народ будзе шчаслівым толькі тады, калі Бог прызнае, што народ сам задбае пра будучыню Айчыны ў кожнай галіне. Нельга Айчынай гандляваць бы мылам!

**Васіль Петручук**

# Смерць і Волька

Ішоў цёплы дождж, святочны і светлы. Волька рыхтавалася на смерць.

У яе доміку „на чвараках" стаяла гуллівая ціш. Але ці ціха тут калі бывала? Да пушчы — рукой падаць, а між хатамі, якія незадоўга чакае сякера, бо „блёкі" тут будуць ставіць, і стройным чыстым лесам з могільнікам наперадзе — шаша, па якой сёння з мусу павальней сунуцца аўтамашыны з турыстамі. А ля кожнага драўлянага доміка, дбала збітага калісьці з „фабрычных" дошак — агароды. Чаго тут людзі не сеюць! Над градамі гуркоў, памідораў, капусты, кабачкаў, буйнымі кветкамі маку — высокія парасоны кропу, які, нагрэты сонцам і прапаласканы дажджом, разам з пахам лісця парэчак, гурэчніку і кветця шчыльна запаўняе гэты кавалачак фабрычнага горада, уціскаецца праз адчыненае акно Вольчынага пакоя.

У Волькі адно што з усяго жыцця добры нюх астаўся. Заплюшчыць сухія вочы, уцягвае ў ноздры пах нядзельнага спакойнага дажджу, які ў сваёй вільгаці і далікатнасці ўсюды такі — ласкавы, пяшчотны, чысты. Прыгожы. А Вольчыны вочы разам з яе былою красою выцвілі ў Сібіры, у партызанцы, у працавітыя будні ў Белавежскай пушчы, у полі, у фабрыцы, у начныя варты пад фабрыкай, пры дзецях... Мужыкоў пахавала двох. Нажылася.

Была калісь Волька хароша! Не адзін афіцэр ёй гэта казаў, не адзін настаўнік ці партыец. Каб за такога якога пайшла, то паняй была б, бяды б не ведала. На картачку глянеш — толькі ў фільме паказвай. А ёй добрыя каб вельмі мужыкі трапіліся, то не. Ды дзе цяпер добрага чалавека знойдзеш! Возьмеш харошага — не ўпільнуеш. А сама ты прыгажуня — то зараз цябе прыставіць да каго хоча. Мусіць і за тое білі чалавекі Вольку, што гожая, і за ўсё яе білі. За тое, што добрая. Бо дабрыні яе не бачылі, шчырасці. Нічога ў свеце не бачылі за работай і гарэлкай.

Расклала Волька на стале карты. Села бокам да труны, каб лепш бачыць: паставіла яе пасярод пакоя, абставіла вазонамі, букетамі кветак у слоіках. На крэсла павесіла сукенку, якую была купіла сабе на смерць, панчохі, хусточку, пад крэслам — роўненька бліскалі туфелькі. Цеснаватыя яны ўжо крыху, — ад таго часу, як купіла іх у „Стадоле", сталі ногі Вольцы моцна пухнуць. Але хадзіць яшчэ можна, ды куды там на тым свеце хадзіці пойдзеш; абы з фасонам туды трапіць... Хэ-хэхэ, усміхаецца да сябе старая.

Адклала Волька на хвіліну карты. Падышла да крэсла, узяла ў далоні боцікі, хукнула на бліскучую скурку. Абувалася цяжка, прыйшлося пяткі ўціскаць лыжкай. Нацягнула сукенку, ссунуўшы долам спадніцу. Прайшлася па пакоі, па-святочнаму акуратна прыбраным, заглянула ў кухню, у якой на стале пад цэлафанам таіліся пірагі і булка хлеба на белым абрусе. Адчыніла халадзільнік — за ўсю пенсію накупіла вяндліп, кілбас, гарэлкі, віна для кабет. Выняла паўлітэрку, пагладзіла яе па халодным стане, які хутка пакрыўся расою. Волька ўздрыганулася ад халадку, які прабег па спіне — ці не смерць гэта ідзе ў госці?.. Вып'юць людзі добрае гарэліцы на мярлінах, не абы „Раялу" ж дасць, паўспамінаюць добрым словам... Волька, калі магла хадзіць, праводзіла ўсіх памерлых, якіх ведала і не ведала, плакала па іх, шкадавала іхняга жыцця, але ўсё больш лічыла гэта толькі расстаннем; прыходзілі да яе ў сне, прыгожыя і маладыя, і клала ім карты, як калісьці. А клаліся ім не трэфы і не віно, а жывыя чырвоныя бубны, а найбольш іх, сэрцаў, што весціць любоў, ласку, шчасце... Якасьці не страшна было Вольцы ісці туды, да іх, на сустрэчу з невядомым.

Боцікі крыху расхадзіліся. Не распранаючыся, Волька села за стол. Раскінула пасьянс. Карты клаліся паслушна, лёгка, быццам толькі іх купілі ў краме, бліскучыя ад лаку, — зусім як не тыя, якімі падказвала Волька будучыню людзям з ваколіцы Гайнаўкі. Праўду казала дзеўкам! „Ты замуж за яго не пойдзеш, не-не! Будзеш за чарнявым." Дзеўка была з нарачоным, тыдні тры да шлюбу, мала вачэй не выдзерла ўпартай варажбітцы. Праз паўгода прыехала з кветкамі, прасіла прабачэння — было яно ўсё так, як прадбачыла старая. А Волька папраўдзе і ў карты тады не глядзела.

Засвяціла сонейка, кінула рухомае павуціннe промняў цераз фіранку на труну. Волька роўненька склала карты ў стосік.

Падставіла ўслончык, каб выгадней было, і ўскараскалася на труну. Дамавіна стойка ляжала на табурэтках. Волька паправіла сукенку на каленях, паварушыла падушачку, запаліла свечку і ўмасцілася, як у калыску. Склала рукі на грудзях. „Цікава, як гэта збоку бачыцца?" — падумала. Было так, як павінна, каб з гонарам, акуратна, палюдску, каб добра ўсё было. Памалілася і заснула, закалыханая ціхім пошумам далёкага, хоць блізкага горада.

У гэты дзень Волька не памерла, хоць праз гадзіну суседка Ганна з крыкам панесла навіну па „чвараках" і па ўсіх суседніх блёках. Адышла праз тыдзень, і правілі яе чужыя людзі, паводле ейнага сцэнарыя, на той, лепшы бок свету.

**Міра Лукша**

# Позірк у мінулае

**25 мая**

1085 г. — памёр папа Грыгорый VII. Народжаны ў Тасканіі Ільдэбранд рана стаў манахам. У 1049 г. папам Львом IX пакліканы ў Рым, дзе адразу праявіў вялікую энергію ў рэфармаванні Касцёла. Гэта па ягонай ініцыятыве ў 1059 г. пастаноўлена, што папу будуць выбіраць толькі кардыналы. Давёў ён таксама да прымірэння папства з нарманамі. Абраны ў 1073 г. папам, напорыста ўзяўся за рэфармаванне Касцёла, перш за ўсё за выкараненне канкубінства і сіманіі (куплі духоўных пасад і званняў), што было ўступам да галоўнага напрамку — устанаўлення цалкавітай папскай улады над Касцёлам, вялікая частка якое да гэтай пары знаходзілася ў руках феадалаў. Давяло гэта да працяглага канфлікту з германскім імператарам Генрыхам IV, якога спачатку ўдалося прымусіць да пакоры ў Каносе, аднак пасля нямецкія феадалы ўзялі верх і Грыгорый, выгнаны, памёр у нарманскім прытулку.

**27 мая**

735 г. — памёр Бэда Славуты, англійскі асветнік. Народжаны ў 672 г. быў адным з найбольш адукаваных людзей сваёй эпохі. Займаўся амаль усімі галінамі тагачасных ведаў. Галоўны яго заслугай было напісанне гісторыі Англіі (731 г.).

927 г. — памёр Сімяон, балгарскі цар. Народжаны ў 863 г., быў пастаўлены на трон сваім бацькам. князем Барысом у 893 г. Шмат гадоў змагаўся супраць Візантыі з мэтай заваявання земляў, заселеных славянамі. Балгарскія войскі нанеслі праціўніку шмат паражэнняў і далучылі да сваіх уладанняў Македонію, Албанію і Сербію. Побач ваенных поспехаў панаванне Сімяона было перыядам буйнага росквіту славянскай культуры. У той час у сталіцы, Праслаўлі, працавалі выдатныя пісьменнікі: Іаан Экзарх, епіскап Канстанцін і Чарнарызец Храбры, якія пераклалі і склалі шэраг багаслоўскіх кніг. Сам Сімяон прыняў званне цара і дабіўся звання патрыярха галаве балгарскай царквы.

**30 мая**

1416 г. — памёр Іеранім, чэшскі рэлігійны рэфарматар і супрацоўнік Яна Гуса. Народжаны ў 1370 г. у Празе, вучыўся ў Празе, Оксфардзе, Парыжы, Гейдэльбергу і Кёльне. Стаў прыхільнікам ідэй Джона Уікліфа, з якімі пазнаёміў Яна Гуса. Калі Гус быў прызваны на сабор у Канстанцы, Іеранім паехаў разам з ім. Прымушана яго адрачыся ад ідэй Уікліфа і Гуса, пасля аднак адкінуў тое адрачэнне і, абвінавачаны за ерась, быў спалены на кастры.

1434 г. — памёр Пракоп Вялікі, галоўнакамандуючы гусіцкімі войскамі пасля смерці Яна Жыжкі (1424 г.). Народжаны ў 1380 г. вучань Яна Гуса, перайшоў ад умераных утраквістаў да радыкальных табарытаў. Паколькі сам не мог насіць ружжа, бо быў ксяндзом, настойваў на агрэсіўную стратэгію, якая б мела прымусіць каталіцкіх захопнікаў да міру. Гусіцкае наступленне на Сілезію, Саксонію, Турынгію і Венгрыю вызвала скліканне сабора ў Базель у 1431 г. Пазней утраквісты і каталікі аб'ядналі сілы і ў бітве пад Ліпанамі 30 мая 1434 г. перамаглі гусітаў; там загінуў і Пракоп Вялікі. **(Ш)**

# Парнасік

## Вясна і травень

Вясна і травень
Прыгожы і *славен*,
Прырода ў вачах паднімаецца,
Усё ажыўляецца:
Ад травінкі па дрэва.
Чуваць у лесе рэха —
Гэта вясна дае гукі
Дарагія нам, як родныя ўнукі.
Нялёгка ўсё гэта ахапіць;
Цудоўны подых вясны.
На двары цёпла, прыемна,
Будзем вясне служыць верна.
Наш доўг — яе задаволіць
Калі сэрца і ласка пазволяць.
Што жывое на свеце — расце
І плён прынясе.
А цяпер прыгажосць, адны кветкі
Займаюць лугі, лясы, палеткі.
Уся зямля ірдзее ў красках,
Свет чароўны, быццам у казках.
Гоман спеўны навокал шуміць
І ручай срэбразвонны бурліць.
Гэта птушкі спяваюць, *лікуюць*,
Бо жывую вясну яны чуюць.
Знаюць *точна* — вясна мір нясе
У сваёй каляровай красе.
Будзь і ты чалавек, як вясна,
Што пагоду на свет прынясла.
Усіх любі, паважай: крылатых,
Матылькоў, чмялькоў і звяроў
тых касматых.
Іх любі, паважай — гэта важна,
Пастпаць так ад сэрца — адважна.
І зямля, што на ёй — не загіне,
Твой геройскі пачын не праміне.

**Мікалай Панфілюк**

## Паабедаў

Было так, што Філіпа
ў горадзе ў бар запрашаюць.
Чаму ж не пайду, думае,
калі людзі грошы маюць.
Выпілі чарку, дзве, крыху закусілі.
Той хто запрасіў выйшаў на двор.
Сядзець не меў сілы.
Выйшаў і ўжо не вярнуўся.
Думаеце, ліпа?
Прыйшлося за ўсё заплаціць
кароўкай Філіпу.

**Мар'я Пень**

## Дзявочая скарга

Хлопцы мае, хлопцы,
Чаму ж вы зявалі
І мой лёс няшчасны
Вы не памянялі?
Асталась сама я
Гора гараваці,
Пакінулі мяне ўжо
Родны бацька й маці.
Пайшлі назаўсёды
Ў вечную дарогу,
А мне трэба працаваць
І маліцца Богу,
Прасіць Яго ласкі,
Моцнага здароўя,
Ну і каб жылося
У меру талкова.
Хоць я асталася
Круглай сіратой,
Не тужыце, не смуткуйце
Па дзеўцы старой.

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Сніцца мне, Астроне, быццам я на нейкай забаве. Бачу, людзі танцуюць, прыглядаюся. Усе тут маладыя, знаёмыя.

Раптам заўважаю пажар. Гарыць нейкая фабрыка. А Божа ж мой, у мяне таксама ёсць фабрыка. Гляджу, а з маёй фабрыкі ідзе толькі дым. Ну, думаю, нехта выратаваў.

Выходжу я з тых танцаў, а тут нейкае пахаванне. Адзін мой знаёмы ў жалобе. Ён нясе прыгожы вянок.

Навокал шмат людзей. Няма маіх боцікаў! Куды ж яны падзеліся? Я іду без абутку, але ў футры. Зіма, мароз трашчыць. Холадна. А я іду па снезе і холаду не адчуваю.

Што ўсё гэта абазначае?

**Рэната**

Рэната! Дзіўныя сны табе сняцца. Спачатку ты была на нейкіх танцах. Праўда, ты сама не танцавала, але ж танцы бачыла. А танцаваць — гэта абазначае нейкія дарэмныя стараннi, непатрэбныя клопаты. Можа ты, або нехта з тваіх блізкіх захварэе (пажар прадвяшчае высокую тэмпературу, хваробу ад прастуды). Хаця твая фабрыка не гарэла, то ўсё ж дымілася.

Пахаванне прадвяшчала б, што нічога кепскага, аднак, з гэтага не выйдзе. Пахаванне абазначае супакаенне, канец клопатаў.

Калі ты выйшла з тых танцаў, дык убачыла шмат людзей, а гэта абазначала б страту самастойнасці. Мо нехта перашкодзіць табе адбыць нейкае падарожжа, бо ж ты згубіла свае боцікі.

Затое ты была ў футры, а яно прадвяшчае табе поспех і багацце. І нават снегу, які прыносіць холад і няўдачы, ты не баялася. Ідзеш па ім без абутку — і табе цёпла.

**Астрон**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 721. Ян Жамойцін (Варшава) ........ 30,00 зл.
4 722. Аляксей Харкевіч (Гайнаўка) ........ 10,00 зл.
4 723. Міхал Голуб (Гайнаўка) ........ 10,00 зл.
4 724. Уладзімір Петрачук (Гайнаўка) ........ 12,00 зл.
4 725. Ян Мордань (Рыбалы) ........ 46,00 зл.
4 726. Валянціна Грыка (Старое Ляўкова) ........ 10,00 зл.
4 727. Ахвяраванні вучняў Пачатковых школ н-р 2 і н-р 6 у Гайнаўцы і ПШ у Нараўцы ........ 62,59 зл.
4 728. Ян Карпюк (Забагонне) ........ 10,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. белая пажыўная вадкасць, 3. прылягае да шыі, 5. ядавіты наркотык, 7. сталіца Нарвегіі, 9. тулава, 10. ежа і пітво, якімі частуюць, 11. сталіца Эквадара, 12. горы ў Паўднёвай Амерыцы, 14. мужчынскае імя, 16. амерыканскі штат, які ў 1867 годзе каштаваў 7,2 млн. дол., 17. паліцэйскі чын.

**Вертыкальна:** 1. плавае на караблі, 2. какаінавы куст, 3. сын Адама і Евы, 4. сталіца Арменіі, 6. трагічнае здарэнне, 8. рыдлёўка, 9. гільза артылерыйскага снарада, 11. калючая зброя, 13. чытае тэкст перад мікрафонам, 14. напр. Нёман, 15. мана, хлусня.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 14 н-ра.**

**Гарызантальна:** трава, аднагодак, фаянс, Нёман, БДА, класіка, лексіка, Луі, Яундэ, рытар, развалiна, манга.

**Вертыкальна:** разгляд, Туніс, Алдан, Аляксандр, Камасутра, філія, Нікар, бал, Алі, Украіна, энзім, руіна.


**Ніва**

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1997 r. upływa 5 czerwca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Тады і цяпер

Некалі вясёлы быў
І ў плячах здаровы,
Без каня цягнуў, вазіў
Я вазамі дровы.

Гнуў на шыі рэйкі я,
Вывернуць мог дуб.
Хоць і ногі босыя,
Ды віхрасты чуб.

Мог я выпіць два вядры,
Кумпяком заесці,
Потым хлопцаў з-пад гары
Па дамах разнесці.

Местачковых маладзіц
Я ж не абмінаў,
З іх шаўковенькіх спадніц
Ноччу пыл збіваў.

Год мінула, можа, з дваццаць,
Можа, крыху болей...
З ложка цяжка падымацца —
Ломіць косці з болю.

Чаркі поўнай да зубоў
Не магу паднесці,
Дый зубоў тых з двух радоў
Два ўсяго на месцы.

Я цяпер не ашукаю
І сваю кабету —
Бо ў партках паўдня шукаю,
Каб схадзіць да ветру.

**Іван Стэх**

## „Памылкі" камп'ютэра

— агульнаадукацыйныя шкоды
— беларуцкая меншасць
— белапрусы
— кульдура
— беларуская мова ля вучняў
— аргнаізацыя
— мітрападліт
— Бедарусь
— каменізм
— літаратурныя гноі

**Знайшоў (лук)**

# Ніўка



*— Намнога слабейшае пакаленне, чым нашае. Яе лекар абследаваў некалькі гадзін, а са мною справіцца за пяць мінут!*

# Дыялог

Сустрэліся два сябрукі, абое ўжо даўно беспрацоўныя.

— Прывітанне, Іван.

— Прывітанне!

— Ну, як ты, дзе-небудзь працуеш?

— Не, я ўсё яшчэ ў „гартопе" — па горадзе тэпаю. А ты?

— А я працую ў ЦК.

— Ды ну!?

— Вось табе і ну. Цэка — цэнтральная кацельня, зразумеў?

— А я падумаў, што недзе ў сталіцы.

— Індык таксама думаў... Пойдзем, півам пачастую.

Дзякую, мо другім разам, спяшаюся ў „Вертыкаль", казалі, там тынкоўшчыкі патрэбны.

У „вертыкалі" — тынкоўшчыкі?

А што тут дзіўнага? „Вертыкаль" гэта ж будаўнічы кааператыў.

— Во яно што! Ну, да пабачэння, поспехаў табе!

— Табе таксама!

**Віктар Федарака**

# Кума з Аўстрыі

Да прыходу цягніка было яшчэ з паўгадзіны. На пероне на лаўцы сядзеў дзядзька, а ля яго стаялі дачка з зяцем і ўнучка гадкоў пяці, апранутыя па апошняй модзе. Зяць раз-пораз кідаў позірк на вакзальны гадзіннік, а маладзіца вяла размову.

— Якая нахаба Зося! Купіла мне танны сарафанчык — і хоча стаць кумой!

— Сарафанчык? — здзівіўся бацька.

— Так. Суседка казала. Зося выхвалялася, што хоча да нас кумой. Навошта?.. Вазьму лепш Наташу.

— Яна ж у Германіі! — запярэчыў муж.

— Ну і што? Прыедзе раз на год, а столькі прывязе!

— Наташа мо не пагодзіцца...

— Тады — Ларыса з Аўстрыі. У яе муж багаты!

— Лепш, калі хросная побач жыве.

Дый куму тады весялей, — уставіў свае „пяць капеек" незнаёмы мужчына. Ён стаяў побач і выпадкова аказаўся сведкам гэтай размовы.

Мужчыны заўсміхаліся. Маладзіца занепакоілася:

— А што ж нам рабіць, калі ўсё ж Зося прыйдзе? З сарафанчыкам...

**Міхась Сліва**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Да ксяндза, вядучага на вяроўцы асла, падыходзіць турыст:

— Ойча, чаму гэты асёл так дрыжыць?

— А ты не дрыжаў бы, мой сыне, каб меў вяроўку на шыі і ксяндза побач?

* * *

— Чуў я, што аддаеш дачку замуж за сына тае суседкі, з якою ўжо многія гады не размаўляеш...

— Гэта помста за ўсё тое, што ад яе выцерпеў.

* * *

Сямейнікі прыказваюць бабулі трымаць язык за зубамі і не разносіць сямейных сакрэтаў.

— Найперш устаўце мне зубы, — абурылася бабуля.

* * *

У філатэлісцкай краме Янка купляў дарагую марку, каб падарыць свайму сябру-філатэлісту. Калі прадавец клаў марку ў канверт, Янка нясмела папрасіў:

— Ці не маглі б вы замазаць цану на гэтай марцы; яна мае быць падаркам...

* * *

Сустракаюцца дзве сяброўкі:

— Жэня! Чаго ўжываеш для чысткі дываноў?

— Мужа.

* * *

— Не ведаю, як ты, але я не веру ў любоў з першага позірку.

— Чаму?

— Ну бо як так адразу пазнаеш, колькі мужчына зарабляе...

* * *

Хлапец цалуе дзяўчыну:

— Гэтым пацалункам я выказаў усё, што да цябе адчуваю, — шэпча ёй.

— Я добра не зразумела. Ці можаш паўтарыць яшчэ раз...

* * *

Дзяўчына да варожкі:

— Вельмі цешуся, што ў сваім шкляным шары ўбачылі вы прыгожага і стройнага брунета. А ці не маглі б вы яшчэ лепей засярэдзіцца і выглядзець нумар яго тэлефона...

* * *

— Як змяніць светапогляд дзяўчыны?

— Паставіць ёй яшчэ адно піва.

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я думала, што ён мяне кахае, а хлопец аказаўся свіннёю.

Я ведала, што ў яго ёсць дзяўчына, з якой ён паказваўся пастаянна, але што з таго, калі сам да мяне прычапіўся.

З гэтай дзяўчынай яны хадзілі ўжо чатыры гады, і ўсе нашыя супольныя знаёмыя лічылі іх амаль мужам і жонкай. Дык я і паверыла, што ўжо між імі няма вялікіх пачуццяў. Так, напэўна гэта мяне ён цяпер пакахаў.

Дзяўчына гэта — студэнтка, а хлопец — сын багатых бацькоў. Не працуе і не вучыцца. Кажа, што ўжо ў сваім жыцці адвучыўся, а дзеля таго, каб мець грошы, ён працаваць не мусіць. Найлепш быць „ранцье": пазычыш людзям грошы, а яны аддадуць табе з працэнтам.

Гультай і гуляка ён, а падабаецца дзяўчатам страшна. Сіняя птушка такая! Дык ты, Сэрцайка, бадай, не дзівішся, што і мяне ўзяло.

Так ужо прасіў, так прыгожа гаварыў аб каханні, што я не вытрымала і дамовілася сустрэцца з ім. Якраз яго дзяўчына паехала да бацькоў (яна — з-пад Варшавы).

Я меркавала, што мы, магчыма, пойдзем у кіно або на нейкую дыскатэку, а ён мне кажа проста з мосту: „Ганка выехала, яе кватэра свабодная, сустрэнемся там!" Нават і не дыскутаваў на гэту тэму, і не пытаўся. Быццам бы і пытанняў ніякіх не мела быць.

Ну, думаю, вып'ем каву ў яе, пасядзім, пагаворым. А адразу прыступіў „да дзела", чаго я, праўду табе кажу, зусім не спадзявалася. Кажа, што калі ўжо я прыйшла „на хату", дык часу не будзем марнаваць.

А што мне было рабіць?! Тыя хлопцы, з якімі я сустракалася раней, праўда, рабілі ўсё гэта неяк інакш, не так адразу. Паходзім туды-сюды: на танцы, у кавярню, ці імяніны якіясь, а тады ўжо даходзіла да нейкага збліжэння. А тут... адразу.

Ну, думаю, няхай сабе будзе, як ёсць. Паглядзім, што ён за певень. А певень аказаўся арлом. Божачкі, як мне было з ім цудоўна. Выцвічыла яго гэта студэнтка!

Я старалася прыняць такую ж позу, як і ён: падумаеш, на ім жа свет не сышоўся. Сёння ён, заўтра — іншы. Аднак не ўпэўнена я, ці мне гэта ўдалося. Хлопец цвёрда верыў у тое, што кожнай дзяўчыне ён спадабаецца. Ну, што ж, можна сказаць, што нейкія падставы дзеля гэтага ён меў.

Сталася рэч страшная: я закахалася ў гэтага хлопца без памяці. Цэлую ноч не магла спаць, думкамі была з ім. Шукала яго на другі дзень, але нідзе не магла знайсці. Я хадзіла як п'яная, як непрытомная. Быццам бы ніколі дагэтуль з хлопцам не пераспалася. Нават расхварэлася крыху і пайшла да лекара, каб даў звальненне ад працы.

Дзе ён можа быць? Нідзе не паказваўся. Як у ваду кануў. Не пайду ж я да яго дахаты: каб прагналі мяне адтуль яго бацькі?!

Я тады ўспомніла, што ён гаварыў, быццам будзе гэты тыдзень жыць у кватэры яго дзяўчыны. У кожным разе яна ж яму пакінула ключы.

Падышла я да яе дома — больш з сентыменту, чым з надзеі, што застану яго там — і стала пад дзвярыма той кватэры. На ўсякі выпадак пазваніла. Мне здалося, што я пачула там нейкія шорахі, але ён мне не адчыніў. Ах, пэўна, мне здалося, падумала я, і пайшла.

Карцела мне, і праз гадзіну я зноў стаяла перад гэтымі дзвярыма. Пазваніць не паспела: дзверы адчыніліся самі, а з іх выйшаў „мой" хлопец, абнімаючы нейкую размаляваную „ляльку".

Мне стала моташна. Не думала я, што з яго такая свіння.

**Віялета**

Віялета! Усе мы пакрысе свінні: ён — парсюк у адносінах не толькі да цябе, але і да сваёй дзяўчыны, але свінка і ты, і тая наступная „лялька". Пэўна, і яна, як ты, ведала, што ў яго ёсць дзяўчына, якая выехала на тыдзень дахаты. Ды толькі кожнаму з нас здаецца, што свініць можам мы, але не нам.

Іншая справа, што хлопец мае „вялікае" сэрца: хопіць яго кожнай. Ды толькі няхай ніводная не важыцца разлічваць у яго на выключнасць.

**Сэрцайка**